№ 5 (938) 3 лютага 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**Не ўсё ў жыцці апошні раз!**

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». Старонка 2.



**Павел Дабравольскі: Беларусь ужо не тая**

«Наша Ніва» пагутарыла з журналістам Tut.by, якога збілі ў судзе. Старонка 4

# Віцэ-прэм’ер Качанава: «Медыкі як працуюць, так і зарабляюць». А міністры?..

Намесніца прэм'ер-міністра Наталля Качанава на калегіі Міністэрства аховы здароўя **выказала меркаванне**, што медыкі «як працуюць, так і зарабляюць».

Яна адзначыла, што «малады чалавек, які прыходзіць вучыцца ў медыцынскую ВНУ, наўрад ці разлічвае атрымліваць велізарную зарплату».

«Калі чалавек прыняў для сябе рашэнне ісці вучыцца ў няпростай ВНУ, значыць, прыняў рашэнне працаваць на карысць людзей, на карысць народа. З гэтага пункту гледжання і трэба рыхтаваць будучых медыкаў», — сказала намесніца прэм'ер-міністра, якая пераехала ў Мінск з пасады кіраўніцы гарвыканкама Наваполацка.

На адной з прэс-канферэнцый Аляксандр Лукашэнка сказаў, што забраў Качанаву ў Мінск па рэкамендацыі спецслужбаў, якія звярнулі ўвагу на яе кандыдатуру. Пачынала Качанава ў Наваполацку ў камунальнай гаспадарцы, а цяпер кіруе ўсёй сацыяльнай сферай, у тым ліку аховай здароўя, адукацыяй і культурай.

Сяргей Гезгала



ДЗМІТРЫЙ БРУШКО, TUT.BY

**Сярэдняя зарплата доктара** ў Беларусі складае на сёння каля 500 даляраў. У Польшчы яна — 1500 даляраў.

Доля выдаткаў на ахову здароўя ад ВУП у Беларусі расла: 2011-ы — 2%, 2012-ы — 3,8%, 2013-ы — 4%, 2014-ы — 4,2%, 2015 — 4,4%.

Гэта больш, чым у Расіі ці Казахстане. Але ў дзесяці новых краінах Еўрасаюза (маюцца на ўвазе Польшча, Чэхія, Латвія і г.д.) на ахову здароўя трацяць 5,4% ад ВУП. Прычым і ВУП там вышэйшы, чым у нас. Напрыклад, паводле звестак Нацыянальнага фонду страхавання Літвы, у гэтай краіне на ахову здароўя трацiцца 7% ад ВУП.

У ЗША на здароўе трацяць 17,2% ад ВУП, у Брытаніі — 9,4% .

## Змены ў дырэктыву №3: эканамічная палітыка зменіцца?

Беларусь хоча да 2020 года знізіць залежнасць ад расійскага рынку. Таксама ў краіну хочуць прывесці заходнія транснацыянальныя карпарацыі (ТНК) — з перадавымі тэхналогіямі.

Гэта вынікае з абноўленай дырэктывы №3 «Аб прыярытэтных кірунках умацавання эканамічнай бяспекі дзяржавы», якая зацверджана ўказам №26.

Дакументам прадугледжана забеспячэнне дыверсіфікацыі экспарту для дасягнення роўнага размеркавання між трыма рынкамі: Еўразійскага эканамічнага саюза, Еўрапейскага Саюза і іншых краін у суадносінах трэць — трэць — трэць. «Гэта дасць магчымасць скараціць рызыку залежнасці эканамічнага росту Беларусі ад ... асобных краін», — гаворыцца ў дырэктыве. «Асобныя краіны» — гэта Расія маецца на ўвазе.

Варта адзначыць, што з агульнага аб'ёму экспарту Беларусі ў студзенілістападзе 2015 года на долю Расіі прыпадала 39% (у студзені-лістападзе 2014-га — 42%), краін ЕС — 32% (у 2014-м — 29%). Што да імпарту, то ў ім доля Расіі ўвогуле пераважная.

Для дасягнення такой мэты ўраўнаважвання рынкаў Беларусі трэба радыкальна палепшыць адносіны з краінамі Еўропы, ЗША і Украінай. Ніколі раней Мінск такой задачы сабе не ставіў. Дзяржаўны апарат, наадварот, працаваў на дыскрэдытацыю «Захаду», кантакты абмяжоўваліся.

Даручана таксама «захоўваць долю на рынку Расіі па пастаўках беларускай прадукцыі, пры продажы якой дасягаецца максімальная эканамічная эфектыўнасць». Гэта значыць, туды перастануць, напрыклад, прадаваць МАЗы і масла ніжэй за сабекошт і даражэй, чым беларусы іх купляюць, як гэта часам рабілася раней для ўтрымання долі рынку.

Што да ТНК, то сярод прыярытэтаў пазначана «арганізацыя супрацоўніцтва вядучых беларускіх вытворцаў з профільнымі транснацыянальнымі карпарацыямі ў мэтах прыцягнення прамых замежных інвестыцый, якія забяспечваюць магчымасць выкарыстання сучасных тэхналогій, абсталявання, патэнтаў на вытворчасць найноўшых відаў прадукцыі, атрымання доступу да тавараправоднай сеткі транснацыянальных карпарацый».

Сярод іншага, дырэктава загадвае «павысіць якасць падрыхтоўкі кіраўнічых і інжынерна-тэхнічных кадраў». Пытанне: якім чынам будзе арганізавана павышэнне якасці? Гаворка пра беларускія ВНУ ці пра накіраванне на вучобу за мяжу?

У якасці прыярытэтаў вызначаюцца «развіццё высокатэхналагічных кірункаў нацыянальнай эканомікі, заснаваных на выкарыстанні біяі нанатэхналогій, інфармацыйных тэхналогій, новых матэрыялаў».

Таксама адзначаецца, што «Беларусь па прадукцыйнасці працы адстае ад узроўню Еўрапейскага Саюза амаль у 4—5 разоў, што абумоўлена не толькі тэхніка-тэхналагічнымі прычынамі, але і праблемамі неэфектыўнай занятасці, якія патрабуюць яе рэструктурызацыі з улікам развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва».

Гэта азначае, што аўтары дырэктывы хочуць павышэння канкурэнцыі на рынку працы.

Мікола Бугай

## Вадзім Гігін

прызначаны дэканам факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Старонка 2.

## Ці збівалі амапаўцы студэнта за беларускую мову?

Старонка 3.



## Уладальнік самай прыгожай сярод кікбаксёраў усмешкі:

«Чалавек, які не займаецца спортам, не паважае сябе!». Макс Спадарэнка — старонка 12.

## Трагедыя ў Барысаве забрала шэсць жыццяў

або Як важна правяраць спраўнасць вентыляцыі. Старонка 7.

# Гучная «справа графіцістаў» скончылася штрафамі

**Суддзя Скуратовіч не знайшла ў дзеяннях хлопцаў «злоснага хуліганства».**

У мінулую пятніцу, пасля трох пасяджэнняў па сімвалічнай «справе графіцістаў», суддзя Ала Скуратовіч вынесла прысуд тром мастакам-аматарам. Макс Пякарскі атрымаў 8,5 мільёна штрафу, Вячаслаў Касінераў — 6,3 мільёна, Вадзім Жаромскі — 10,5 мільёна.

Прысуд быў зусім мяккім на фоне патрабаванняў пракурора, які запрошваў 500 (!) базавых велічынь — больш за 100 мільёнаў — штрафу Пякарскаму, а астатнім хлопцам абмежаванне волі без накіравання ў месцы адбывання.

Тое, што гэты працэс быў выразна палітычным, было зразумела ад самага пачатку. У жніўні, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, хлопцаў брутальна затрымаў спецназ, уварваўшыся да кожнага ў кватэру праз вокны.

Графіцістаў «прымалі», нібы мацёрых крымінальнікаў, а Касінёраву падчас гэтага яшчэ і зламалі сківіцу ў двух месцах. Пры гэтым усё, што інкрымінавалася хлопцам, — гэта два патрыятычныя графіці і запэцканы фарбаю рэкламны білборд міліцыі.

Хлопцы тры месяцы знаходзіліся пад вартаю, пасля чаго іх выпусцілі «пад падпіску».



Падтрымаць хлопцаў у суд прыходзіў экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч.

Ужо пасля экспертыза выявіла, што нічога экстрэмісцкага ў графіці «Беларусь мае быць беларускай» і «Рэвалюцыя свядомасці» няма, а ўласнік білборда заявіў, што нанесеную шкоду хлопцы кампенсавалі і прэтэнзій да іх ён не мае.

Але пагроза вялікіх тэрмінаў заставалася. Праваабаронцы гатовыя былі прызнаць хлопцаў новымі палітычнымі зняволенымі.

Дарэчы, у судзе хлопцы змянілі свае папярэднія паказанні, заявіўшы, што давалі іх пад ціскам супрацоўнікаў упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.

У выніку хлопцы атрымалі толькі штраф і вельмі радыя гэтаму.

У каментары «Нашай Ніве» яны адзначылі, што такі мяккі прысуд — гэта, на іх думку, вынік кампаніі салідарнасці ў СМІ і грамадстве.

Цяпер праз «Арт-Сядзібу» запушчана кампанія па зборы сродкаў на аплату штрафаў.

**Арцём Гарбацэвіч**

**Падтрымаць хлопцаў і пералічыць грошы на аплату штрафаў можна некалькімі спосабамі.**

1. Набыць саколку з малюнкам «Беларусь мае быць беларускай». Аўтарам прынта з'яўляецца адзін з графіцістаў Максім Пякарскі. На малюнку за перакрэсленым сярпом і молатам — крыжы Курапатаў, а за перакрэсленай свастыкай — званы Хатыні.

2. Ахвяраваць сродкі некалькімі варыянтамі:

— зрабіць дабрачынны ўнёсак на рахунак «Арт-Сядзібы» ў любым банку Беларусі

— перадаць грошы праз офіс «Арт-Сядзібы»: Мінск, пр-т Незалежнасці, д. 58, оф. 430 (ст. м. «Плошча Якуба Коласа», 4 паверх Маскоўска-Венская ГЦ),

Усе рэквізіты ёсць на nn.by.

## Сцісла

**Віктар Пракапеня вярнуўся ў бізнэс**

Кампанія EXP (Capital) Віктара Пракапені вярнулася ў свой ранейшы офіс на вуліцы Інтэрнацыянальнай у Мінску. Пракапеню вызвалілі з СІЗА ў канцы снежня пасля кампенсацыі інкрымінаванай шкоды. У няволі ён правёў амаль 9 месяцаў. Бізнэсовец мае намер і далей працягваць займацца бізнэсам у Беларусі.

**Дзень беларускага пісьменства пройдзе ў Рагачове**

Ён запланаваны на 4 верасня.

**У некаторых сведкаў Іеговы адбяруць рэгістрацыю**

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі Леанід Гуляка не выключае магчымасці зняцця з рэгістрацыі некаторых суполак сведкаў Іеговы за парушэнні заканадаўства. «Будзе шум, але я да гэтага гатовы», — папярэдзіў ён.

**Дзі Капрыа сыграе Пуціна**

Выхад фільма *Putin* запланаваны на вясну 2017 года. Жанр — палітычны трылер з фактамі з жыцця прэзідэнта, які апынуўся на вяршыні сусветнай палітыкі. «Ад афіцэра КДБ, прэм'ер-міністра — да прэзідэнта. Чалавек-міф. Погляд на асабістае жыццё і кар'еру аднаго з самых уплывовых людзей свету», — сказана ў апісанні праекта.

**Акцёра Купалаўскага тэатра затрымалі за збыт і захоўванне марыхуаны**

Арцём Барадзіч, выканаўца ролі Яўхіма ў «Людзях на балоце», цяпер сядзіць на Валадарцы.

ЯМ

## Апытанне

**Ці давяраеце Вы міліцыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 75 | 3% |
| Не | 1879 | 68% |
| У некаторых сітуацыях давяраю, у некаторых — не | 603 | 22% |
| А што, у нас ёсць выбар? | 222 | 8% |

Усяго прагаласавала 2779

**Віншуем**


75 гадоў споўнілася мовазнаўцу, першаму паслу Беларусі ў Германіі, дэпутату Вярхоўнага Савета 12-га склікання Пятру Садоўскаму. Творчага натхнення Вам!


70 гадоў споўнілася мастаку Міколу Купаву. Ён быў адным з пачынальнікаў руху за незалежнасць Беларусі. Многая лета, спадару!

# Гігін стаў дэканам

Рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін прызначаны дэканам факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Гэта «Нашай Ніве» пацвердзілі ў дэканаце факультэта.

38-гадовы Вадзім Гігін нарадзіўся ў Мінску. Ён скончыў гістарычны факультэт БДУ. У аспірантуры абараніўся з дысертацыяй «Фарміраванне аднапартыйнай сістэмы ў Беларусі (1917—1925 гады)».

Працаваў у прэс-службе генеральнай пракуратуры (падначаленым прапагандыста Юрыя Азаронка), быў першым сакратаром Мінскай гарадской арганізацыі БРСМ.

Апошнія восем гадоў ён рэдагаваў часопіс «Беларуская думка», заснавальнікам якога з'яўляецца Адміністрацыя прэзідэнта. Гігін быў у спісе неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза беларускіх чыноўнікаў і журналістаў.

У свой час Гігін захапляўся асобай віленскага губернатара Мураўёва-вешальніка: «Можа, трохі нестандартны выбар, але мне заўсёды імпанаваў віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў, які здушыў паўстанне 1863 года. Але я добра вывучыў яго біяграфію. Гэта быў надзвычайны чалавек, адміністратар, кіраўнік, які можа служыць прыкладам для любога дзяржаўнага дзеяча».

Апошнія гады Вадзім Гігін таксама быў вядучым



на тэлеканале АНТ.

Ягоная праграма «Справа прынцыпу» выходзіла штопанядзелак а 21-й гадзіне. Цікава, ці застанецца ён працаваць на тэлебачанні пасля прызначэння на новую пасаду?

**Зміцер Панкавец**

## Самае чытанае на nn.by за 27 студзеня — 2 лютага

1 Сацсеткі кпяць са словаў камандзіра мінскага АМАПа пра знаўцаў мастацтва сярод байцоў

2 Давыдзька, Дзермант і Якубовіч накінуліся на збітага Дабравольскага

3 Студэнт Акадэміі музыкі: Амапаўцы па-зверску збілі мяне за беларускую мову, я не вытрымаў і плюнуў аднаму з іх у твар

4 Суддзя Скуратовіч у дзеяннях графіцістаў злоснага хуліганства не выявіла, абмежавалася штрафам

5 Камандзір мінскага АМАПа: У нас ёсць заўзятыя тэатралы, гісторыкі, знаўцы выяўленчага мастацтва

6 У Барысаве пад падлогай барака знайшлі муміфікаваны труп жанчыны, на гарышчы — яе засіленую дачку

7 Жанчына ў норкавым футры, з плачам: «Давайце вернем гэты Крым»

8 Як у Полацку 1638 года разглядалі справу аб імпатэнцыі мужа

9 Саюз прадпрымальнікаў Польшчы заклікаў урад перацягваць беларусаў і ўкраінцаў на жыхарства любымі спосабамі

10 Адмененыя ўсе канцэрты студыі «Квартал 95» у Беларусі

# «Паміж Беларуссю і Расіяй узнік невырашальны крызіс даверу»

**26 студзеня ў Маскве на базе Вышэйшай школы эканомікі прайшла канферэнцыя «БелаРускі дыялог».**

Канферэнцыю ладзіў палітолаг Андрэй Суздальцаў, які ў 2006 годзе быў дэпартаваны з Беларусі праз тое, што «ўяўляў пагрозу нацыянальнай бяспецы краіны».

У Маскву было запрошана дастаткова шмат беларускіх палітыкаў (Караткевіч, Карач, Калякін, Ярашук), затое не прыйшоў ніхто з беларускіх дыпламатаў. Хоць запрашэнні дасылаліся Паўлу Лёгкаму — былому кіраўніку прэс-службы Лукашэнкі, а сёння дарадцу-пасланніку пры пасольстве Беларусі ў Маскве. Не адгукнуліся і праўладныя палітолагі, напрыклад Сяргей Кізіма, а таксама член савета рэспублікі Юрый Сянько.

Затое было дастаткова шмат прадстаўнікоў расійскіх структур, хоць і не верхніх эшалонаў. Былі прадстаўнікі крамлёўскай адміністрацыі, а таксама спецслужбаў. Хоць гэтыя людзі і не выступалі ў якасці прамоўцаў, а былі слухачамі.

З высокіх выступоўцаў быў толькі намеснік міністра фінансаў Расіі Сяргей Старчак. У сваім слове ён адзначыў, што супрацоўніцтва з беларускім бокам яго задавальняе, ніякіх прэтэнзій ён выказаць не можа.

З пэўнай агаворкай да прадстаўнікоў расійскай улады можна аднесці Алега Неменскага — супрацоўніка Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў. РІСД — гэта аналаг беларускага Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра, у яго абавязкі ўваходзіць інфармацыйнае забеспячэнне Адміністрацыі прэзідэнта РФ, Савета Федэрацыі, Дзяржаўнай Думы. Неменскі лічыцца расійскім спецыялістам па Беларусі і Украіне.

Якраз з вуснаў Неменскага гучала, што ў Беларусі ўзрастаюць антырасійскія настроі, а ўлада разварочваецца ў бок Захаду. Неменскі шкадаваў, што Расія «не ўкладвае грошай» у апрацоўку беларускай моладзі. А пагаршэнне адносін, на думку Неменскага, адбываецца праз віну расійскага боку, які «занадта спакойна ставіцца да выбрыкаў кіраўніка Беларусі». Прыкладна ў такім самым духу гаварыў аглядальнік «России сегодня» Расціслаў Ішчанка.

«Мне гэта нагадвала, як Жуль Верн мог таленавіта апісваць флору і фаўну краін, якія ніколі не наведваў, — дзеліцца ўражаннямі беларускі палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — Гэтаксама і гэтыя «мазгаведы» маюць пра Беларусь дастаткова апасродкаванае ўяўленне».

Па словах Якаўлеўскага, падобная канферэнцыя магла адбыцца толькі ў Маскве, бо многія расійскія эксперты проста баяцца ехаць у Беларусь пасля выпадку з менеджарам «Уралкалія» Уладзіславам Баўмгертнерам.

Па сканчэнні канферэнцыі яе арганізатар Андрэй Суздальцаў на сайце *politoboz.com* надрукаваў камюніке з кароткімі высновамі. Беларусь адыходзіць ад саюза з Расіяй — такі яго лейтматыў. Адзначаецца, што ў часткі беларускага грамадства ўзрастаюць антырасійскія настроі, на дзяржпрацу не бяруць людзей, што атрымалі адукацыю ў Расіі альбо маюць сімпатыі да гэтай краіны (хоць на самай справе ўсе вярхі беларускага войска — выпускнікі Акадэміі Генштаба Расіі). Асабліва звяртае ўвагу, што паміж Беларуссю і Расіяй «узнік невырашальны пры сённяшнім беларускім кіраўніцтве крызіс даверу». Узнікае пытанне: гэта ўсё ж прыватная думка аўтараў ці прамацванне глебы?

«Высновы выніковага камюнікэ, падрыхтаванага калектывам арганізатараў канферэнцыі на аснове аналізу выступленняў дакладчыкаў мерапрыемства, могуць часткова не супадаць з меркаваннямі ўдзельнікаў канферэнцыі», — адзначаецца пры канцы. Фактычна ж выходзіць, што пад такімі высновамі падпісалі ўсіх удзельнікаў канферэнцыі.

Што тычыцца нейкіх бытавых умоваў, то нічога асаблівага ў Маскве не было. Удзельнікі прыязджалі роўна на адзін дзень, без начоўкі. Ікры і іншых далікатэсаў удзельнікам не прапаноўвалі, як гэта бывала ў сытыя гады. Нават гарэлку «Байкал» на вячэру даводзілася купляць за свае грошы.

**Зміцер Панкавец**

### Навіны з космасу

**Баранчык: На беларускай мове гавораць толькі незамужнія студэнткі педагагічнага ўніверсітэта**

«На беларускай мове гавораць толькі незамужнія студэнткі педагагічнага ўніверсітэта і частка нацыяльнай эліты, — заявіў на канферэнцыі «БелаРускі дыялог» у Маскве расійскі прапагандыст Юрый Баранчык. — А што да тых жа апазіцыянераў, то ў Магілёве ні адзін з іх не аддаў сваё дзіця ў беларускамоўную школу», — сказаў Баранчык.

Выказванне Баранчыка цытуе ў сваім фэйсбуку журналіст Зміцер Лукашук. «Я ў такім выпадку хто — незамужняя студэнтка ці нацыянальная эліта?» — іранізаваў Лукашук.

Юрый Баранчык раней быў кіраўніком Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра НДІ тэорыі і практыкі дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі. Пасля стварыў інтэрнэт-праект imperiya.by і пераехаў у Маскву. У 2014 годзе гэты рэсурс публікаваў інструкцыі для баевікоў Усходняй Украіны.

# Ці збівалі амапаўцы студэнта за беларускую мову?

У мінулым нумары мы пісалі пра дзікі выпадак у мінскім судзе, калі амапаўцы збілі трох чалавек, сярод якіх быў і журналіст. Пасля розгаласу гэтай гісторыі пачалі з'яўляцца і іншыя. Адметна, што да гісторыі ў Фрунзенскім судзе пацярпелыя маўчалі.

Сярод «новых старых» гісторый найбольш вылучаецца выпадак са студэнтам Акадэміі музыкі Кастусём Ахроменкам.

Хлопец расказаў пра яго на відэа.

На кадрах хлопец сядзіць на ложку, побач відаць міліцы, Кастусь курыць і расказвае.

«Я артыст, іграю ў гурце «Дзеці падзямелля», — кажа студэнт, — 20 снежня пасля канцэрта я разам з сябрам пайшоў у кафетэрый на вакзал, выпіць піва і адагрэцца. Але неўзабаве да нас падышлі амапаўцы, якіх зацікавіла пляшка гарэлкі побач. Яна была не наша».

Далей, паводле Кастуся, амапаўцы пачулі беларускую мову і праз гэта пачалі зневажаць хлопцаў, патрабуючы ад іх размаўляць па-руску. У выніку двое сяброў апынуліся ў пастарунку, дзе адзін з амапаўцаў параіў Кастусю «засунуць свой беларусскій язык в ж.пу». Хлопец, па яготых словах, не вытрымаў і плюнуў міліцыянту ў твар, за што яго па-зверску, да непрытомнасці збілі, зламалі нагу і нос. І яшчэ далі штрафу за знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане.

Гэтая гісторыя набрала масу каментароў у інтэрнэце, стала адной з самых чытаных на сайце.

Але ці было ўсё насамрэч так, як апісвае Кастусь? Каб вось так за беларускую мову збівалі і затрымлівалі ў Беларусі? Мы датэлефанаваліся да Кастуся і пагаварылі з ім яшчэ раз.




Такое фота размешчанае на старонцы Кастуся «Укантакце». А.С.А.В. азначае «Усе мянты — гады».



Так выглядаў Кастусь Ахроменка ў наручніках у аддзяленні. Фота зробленае ягоным сябрам.

«Адразу пасля канцэрта мы выпілі дзесьці па літры-паўтара піва», — прызнаўся хлопец.

Таксама высветлілася, што ягоны сябра «быў трохі п'яны», а паводзілі яны сябе не зусім адэкватна.

«Ну так, праз столькі дзён я пераасэнсаваў тыя падзеі, і мне здаецца, што не трэба было да іх так агрэсіўна ставіцца», — сказаў «Нашай Ніве» Кастусь.

Адметна, што пры затрыманні на хлопца накінулі кайданкі, а на ягонага сябра — не. Таксама ягоны сябра не пацярпеў, яго ніхто не біў, хоць той таксама размаўляе па-беларуску.

А даведкі аб пабоях у Кастуся няма, бо, маўляў, «не далі».

Варта таксама дадаць, што на сваёй старонцы «Укантакце» хлопец яшчэ 1 верасня выклаў уласны фотаздымак на фоне абрэвіятуры А.С.А.В, што з англійскай мовы перакладаецца як «Усе мянты — гады».

Ці мог канфлікт адбыцца не праз мову, а праз ягонае перадузятае стаўленне да людзей у форме?

Сваё фота на фоне надпісу А.С.А.В. хлопец уцямна патлумачыць не здолеў.

«Я ездзіў летась у Паднёвую Еўропу на гастролі і ўбачыў гэты надпіс. Проста прыемны ўспаміны ў мяне з ім звязаныя», — сказаў Кастусь і падкрэсліў, што нашую міліцыю «асабліва не паважае».

У той жа час, кажа ён, «яны ж людзі, таксама беларусы, і я, як нацыяналіст, павінен любіць іх, як люблю ўсіх астатніх. Яны частка нашай нацыі, але яны паддаюцца асіміляцыі, яны будуць пры любой уладзе. І нават калі да ўлады прыйдзе апазіцыя, то знойдуцца такія ж іншыя. Я зразумеў, што асноўная маса народу тупая — ім бы пажраць і паспаць», — так выказаўся Кастусь.

Пасля збіцця Кастусь напісаў заяву ў Следчы камітэт са скаргай на супрацьпраўныя дзеянні амапаўцаў.

Але ў аўторак яму прыйшоў адказ, што крымінальную справу Следчы камітэт не заводзе «праз адсутнасць складу злачынства».

У Следчым камітэце гэтую справу нам каментаваць адмовіліся.

«Гэта настолькі ўсё палітызавана, што я не буду нічога казаць. Не буду займаць ніякіх пазіцый, надта шмат палітыкі. Але калі нам паступае заява, то мы заўсёды разглядаем яе згодна з Крымінальным кодэксам», — сказала прэс-афіцэрка СК Юлія Ганчарова.

У мінскай жа міліцыі нас запэўнівалі, што ніхто хлопца не біў, але таксама адказ атрымаўся двухсэнсоўным.

«Магу вам сказаць, што яго не збівалі, як ён тое апісвае. Ды яшчэ за беларускую мову. Такога не бывае. Але зноў жа, мяне там не было, не магу сказаць з 100% дакладнасцю», — сказаў прэс-афіцэр МУС Аляксандр Ластоўскі.

Складаецца ўражанне, што абодва бакі штосьці недагаворваюць.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Павел Дабравольскі: «Захацеў свабоднай журналістыкі — атрымай»

«Наша Ніва» пагутарыла з журналістам партала *Tut.by*, якога збілі на мінулым тыдні ў судзе. Павел Дабравольскі расказаў пра сябе, Украіну, а таксама інцыдэнт з міліцыяй.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Пра сябе

Мне 26 гадоў. На журфак хацеў паступіць яшчэ ў школе.

Я нарадзіўся ў Казахстане ў сям'і геолагаў. Мне быў год, калі мяне прывезлі ў Мінск.

Жыў у раёне Кальварыі, каля сённяшняга журфака. Я ў той будынак упершыню трапіў, калі мне было гадоў 15. Там ішла будоўля, мы залезлі праз плот на дах. Нас з сябрамі заўважыла ахова з сабакамі, ганялася за намі, затрымала. Таму першыя ўражанні былі так сабе.

### Пра шлях у прафесіі

З другога курса я пачаў супрацоўнічаць з газетай «Туризм і отдых». На 4-м курсе мяне ўзялі ў штат.

Увесь 2013 год я правёў на ej.by. Менавіта там я стаў журналістам. Не на журфаку, а ў «Ежедневніку». Цяпер гэтае выданне крыху ў занепадзе. Як стаў спадаць рэкламны рынак, то стала цяжка. Там не хапае працоўных рук, як вынік гэтага — менш артыкулаў і праглядаў.

### Пра Майдан

Калі забілі Жызнеўскага, то мы з сябрам узялі квіткі ў Кіеў, хоць у мяне і была сесія ва ўніверсітэце. Гэта была сярэдзіна студзеня 2014. Мы правялі там некалькі дзён, але шмат усяго заспелі, асабліва сутыкненні пратэстоўцаў з сілавікамі на Грушэўскага.

Другі раз я быў на Майдане ў сярэдзіне лютага. Я быў там 20 лютага, у самы жорсткі дзень. Яшчэ з вакзала пачуў стрэлы. У той дзень на Майдане забілі каля 100 чалавек, усю Нябесную сотню. Спачатку я трапіў на Майдан з боку «Беркута», мне там быць не дазволілі. Сказалі, каб уцякаў, бо застрэляць. Беркутаўцы былі вельмі ўсхваляваныя, шмат лаяліся. Пасля я быў з боку пратэстоўцаў. Я запомніў, як адна бабуля дапамагала драбіць брук і клала гэтае каменне ў мех.

Той дзень цягнуўся чацвёра сутак без сну. Ежай былі нейкія ёгурты, бо паесці можна было толькі на ўскраінах. Я заспеў час, калі знік Януковіч.

Калі Вярхоўная Рада вызваліла Цімашэнку, яна прыехала на Майдан.

Гэта неймавернае шчасце — быць у тыя дні ў Кіеве. Блін, гэта было крута. Гэта афігенна натхняла. Калі ты бачыш светлыя твары, поўныя надзей. Людзі верылі, што нарэшце бюракратыя, карупцыя, бясчынствы міліцыі адыдуць у мінулае.

### Пра «Наваросію»

Я быў у Луганску ў той дзень, калі абвяшчалася так званая «Наваросія». Горад быў захоплены сепаратыстамі. У тыя дні там было шмат бясчынстваў. Людзям раздалі зброю, яны хадзілі і чапляліся да людзей на вуліцах, скрадалі машыны. Мне не было дзе пераначаваць, таму я бавіў час у кругласутачнай кавярні з інтэрнэтам. Дзесьці а 8 раніцы да нас уварваліся людзі з аўтаматамі. «Пайшлі на ..й адсюль», — крычалі яны. Нібыта была нейкая камендацкая гадзіна. Так я апынуўся на пустой вуліцы.

Ніякіх таксі не было, давялося ісці пешшу на вакзал. Праз нейкі час убачыў нейкіх людзей, падышоў да іх. Яны прыставілі аўтамат мне да грудзей. «Х...е ты тут робіш?» Сказалі, каб паказаў свае рэчы. А я перад гэтым быў на курсах Бі-бі-сі ў Кіеве, і яны ўбачылі дыплом са сцягам Еўрасаюза, убачылі «Украінскі тыждзень». Яны пужалі: мы цябе грохнем, і ніхто цябе не знойдзе. І я падумаў: так, яны сапраўды могуць гэта зрабіць і ім нічога не будзе. Гэта былі звычайныя 20-гадовыя хлопчыкі. І гэтым бухім булдосам раздалі зброю — гэта жудасна.

На наступны дзень я трапіў у Данецк. І я ўбачыў гэты мітынг за «Наваросію». Там было, мабыць, тысяч 15. Усе з рускімі сцягамі. Там прадставілі армію «Наваросіі». Прыехала некалькі БТРаў, грузавікоў, выйшлі ўзброеныя людзі. Здаецца, батальён «Усход». Было шмат каўказцаў, якія паміж сабой нават не гаварылі паруску. Я іх фатаграфаваў, яны не заміналі.

### Пра людзей на вайне

Людзі, што падтрымалі ДНР, не маюць альтэрнатыўнай інфармацыі. Нам падаецца, што гэта ахінея, у якую немагчыма паверыць, але людзі ўспрымаюць на поўным сур'ёзе, што Украіна будуе канцлагеры, што будуць забіваць людзей, якія не здадуць экзамен па ўкраінскай мове.

Наступны раз я паехаў на Данбас з запасам грошай на большы тэрмін. Я бачыў там чалавека, які атрымаў вышэйшую адукацыю ў ЗША, але ваюе на баку «ДНР». Не трэба мысліць стэрэатыпамі, што там ваююць толькі булдосы за грошы. Ёсць розныя людзі з абодвух бакоў.

І з украінскага боку не заўсёды анёлы. Прыклад — батальён «Тарнада», які расфармавалі праз здзекі з людзей.

### Пра «ДНР» і «ЛНР»

Паміж сабой луганскія і данецкія ў не вельмі добрых адносінах.

У адміністрацыі «Элэнэры» мне гадзіну расказвалі, якія лохі ў Данецку. У Данецку — усё наадварот.

У Горлаўцы адзін баявік мне казаў: «Нам по...й на Данецк, у нас тут свая рэспубліка». Што ні станіца, то свая ўлада. Там няма ніякага адзінства.

Мяне здзівіла, што паміж «ДНР» і «ЛНР» ёсць мяжа, а на ёй людзі з аўтаматамі.

Мне кідалася ў вочы, наколькі шмат у Луганску сярпоў і молатаў. У Данецку погляды больш руска-імперскія, а вось у Луганску — камуністычныя.

### Пра псіхалогію нянавісці

Стаўленне да Украіны ў ДНР і ЛНР — гэта нянавісць. Гэта цісне на псіхалогію. Ты кожны дзень чуеш тоны нянавісці. Калі кажаш, як вы можаце ў гэта верыць, то на мяне глядзяць здзіўленымі вачыма. Я ўбачыў, наколькі лёгка людзей можна замбаваць і наколькі лёгка яны вераць у любую хлусню.

### Пра ролю Расіі

Калі б не Расія, то гарады б былі цэлыя і не было б 10 тысяч забітых. Калі Парашэнка пачаў АТА, то за пару дзён палову тэрыторыі вызвалілі — Марыупаль, Славянск, Краматорск. Вызвалілі б і астатнюю, калі б не Расія. Ну простая логіка: дзве вобласці не могуць на роўных супрацьстаяць дванаццаці абласцям.

Мы ўбачылі там шмат незразумелых людзей. Танкі, якія няясна ў якіх шахтах адкапалі. Без Расіі нічога б не было.

### Пра Данецк

Калі я ўпершыню трапіў у Данецк, то ўбачыў цудоўны горад. Па логіцы, баставаць могуць жабракі, дзе заробак 10 даляраў. Калі у Душанбэ будуць мітынгі за лепшае жыццё, то я не здзіўлюся. У Данецку ж стаялі шкляныя хмарачосы, якіх на той час не было нават у Мінску, вылізаныя вуліцы, рэканструяваныя дамы, бутыкі еўрапейскіх брэндаў, дарагіязныя машыны. Гэты горад быў роўны Кіеву па сваім развіцці, па грошах, якія там круціліся!

Эканоміка Украіны ўжо пайшла ўверх, яны адштурхнуліся ад дна. Калі там будуць заробкі хаця б 500 даляраў, то жыхары Крыма і Данбаса самі вернуцца ва Украіну. Украіна слабая не столькі арміяй, колькі на інфармацыйным фронце.

### Пра збіццё

Мяне хвіліну інтэнсіўна білі два-тры чалавекі. Я ляжаў дваццаць хвілін, і мяне дабівалі. Удар, праз хвіліну яшчэ адзін удар, паварухнешся — удар, нешта скажаш — удар. Білі нагамі. Адзін чалавек сеў побач і хвіліну трымаў сваю нагу ў мяне на патыліцы. Калі нехта выходзіў з кабінета, то ішоў па галаве. Гэта нармальна? Калі б яны хацелі мяне забіць ці вырубіць, то хапіла б аднаго ўдару.

Яны білі не ў поўную сілу, проста хацелі запалохаць і аказаць псіхалагічны ціск.

Было балюча, але не настолькі, каб мяне пакалечыць. Яны бачылі, што я журналіст, я паказаў сваё пасведчанне. У той самы момант нехта ззаду мяне нагнуў, а іншы проста тычком ударыў мяне ў сківвіцу. Сказалі: «Свабоднай журналістыкі захацеў? Атрымай!»

А нафіга дубасілі гэтых хлопцаў? Якую пагрозу яны ўяўлялі? І гэты позірк, з якім яны глядзелі на нас, — гэта жахліва.

У пакоі было 5—6 чалавек. Ніхто не быў у форме. Адзін з іх — Кавальчук Сяргей Ігаравіч — быў пасля сведкам на судзе. Даведаемся прозвішчы і астатніх. Нават калі ім сёння нічога не будзе, то важна, каб яны захаваліся для гісторыі. Гэта найменшы вынік, якім я буду задаволены. Але мы пойдзем да канца. Нават калі гэта спусцяць на тармазах, то больш так рабіць ніхто не стане. Кіпеш цяпер стаіць вялікі.

Раней таксама збівалі, я памятаю, што білі Сяргея Грыца, але ці была такая рэакцыя? У той час *Tut.by* не быў такім моцным і астатнія СМІ не былі моцнымі.

Мне здаецца, калі б сёння забілі Завадскага і Ганчара, то Майдан бы ўжо быў.

**Запісаў Зміцер Панкавец**

**Я быў у Луганску ў той дзень, калі абвяшчалася так званая «Наваросія». Горад быў захоплены сепаратыстамі. Мне прыставілі аўтамат да грудзей: «Х...е ты тут робіш?» Яны казалі: мы цябе грохнем, і ніхто цябе не знойдзе. І я падумаў: так, яны сапраўды могуць гэта зрабіць і ім нічога не будзе. Гэта былі звычайныя 20-гадовыя хлопчыкі. І гэтым бухім булдосам раздалі зброю — гэта жудасна**

### Жаба




**Сацыяльныя сеткі выбухнулі мемамі і жартамі пасля слоў камандзіра мінскага АМАПа Дзмітрыя Балабы пра тое, што сярод байцоў нямала заўзятых тэатралаў, гісторыкаў і знаўцаў мастацтва.**

# Першай камунізм збудавала краіна без камуністаў

**Кожны швейцарац будзе атрымліваць гарантаваныя 2250 еўра штомесяц?**



Рэферэндум, на які будзе вынесена пытанне аб «безумоўным даходзе» для ўсіх жыхароў Швейцарыі, адбудзецца ў чэрвені.

Калі змяненне заканадаўства будзе прынята, швейцарцы атрымаюць права на штомесячны даход у 2250 еўра, дзеці — 550 еўра.

Перавод усіх грамадзян на безумоўны даход будзе каштаваць каля 190 мільярдаў еўра на год.

Ідэя безумоўнага даходу заключаецца ў тым, каб разарваць сувязь паміж занятасцю і дабрабытам. Прыхільнікі гэтага падыходу лічаць, што большасць жыхароў усё роўна працягне працаваць, толькі не на той працы, дзе больш плацяць, а на той, якая ім больш за ўсё пасуе. Акрамя таго, безумоўны даход дазволіць ашчадзіць на адміністраванні шматлікіх датацый бедным — іх адменяць. Нашто датацыі, калі кожны будзе гарантавана атрымліваць столькі, колькі ў «сацыяльна арыентаванай» Беларусі не атрымлівае ніхто?

Швейцарыя — адна з самых старых дэмакратый. Краіна даўно захоўвае нейтралітэт, не ўваходзіць ні ў якія саюзы. Праўда, свой мірны статус швейцарцы абараняюць, маючы моцнае войска.

Багацце Швейцарыі збудаванае на працавітасці і сумленнасці яе грамадзян, а таксама на ўменні прыцягваць грошы ў свае надзейныя банкі.

**Сяргей Гезгала**

## У Літве пачынае дзейнічаць сістэма платы за бутэлькі

**Плаціш 10 еўрацэнтаў — табе іх вяртаюць пры здачы тары ў аўтаматы.**



У цану напояў у шкляной, пластыкавай або металічнай упакоўцы будзе ўключаны заклад памерам 10 еўрацэнтаў (каля 2400 рублёў), які пакупнікі змогуць вярнуць, здаўшы пазначаную спецыяльным знакам тару ў аўтаматы або іншыя месцы прыёму.

Цяпер у крамах Літвы абсталявана каля 500 «тараматаў» — у асноўным, у буйных гандлёвых цэнтрах, але плануецца, што да мая іх колькасць павялічыцца амаль да 1000, а за некалькі гадоў будзе створана тысяча працоўных месцаў для нагляду за аўтаматамі.

Гандляры будуць прымаць толькі тыя ўпакоўкі, на якіх будзе спецыяльны знак, які сімвалізуе, што ўпакоўка ўдзельнічае ў сістэме заставы і што пакупнік можа вярнуць заклад. За тавар без такога знака заставу браць не будуць, і такая тара не будзе прымацца.

Застава павінна стымуляваць жыхароў не забруджваць навакольнае асяроддзе ўпакоўкамі.

**АГ**

## Пад Мінскам збіраюць аналаг «Туарэга»

**Уседарожнік будзе каштаваць каля $11 тысяч.**

На заводзе «Юнісон» пад Мінскам асвоілі зборку кітайскага аўтамабіля *Zotye T600*. Уседарожнік надзвычай падобны да «Фальксвагена Туарэг» старога пакалення.

Паводле інфармацыі расійскага аўтапартала «Колёса.ру», папярэдні кошт машыны складае каля $11 тысяч. Продажы маюць пачацца ўжо ў лютым.

Мадэль будзе даступная з пярэднім прывадам і турбаваным бензінавым рухавіком аб'ёмам 1,5 літра. Магутнасць матора складзе 160 альбо 190 конскіх сілаў.



## Расія апусцілася ў пяцёрку краін Еўропы з найніжэйшымі заробкамі

Курс расійскага рубля застаецца нізкі. Падзенне расійскай эканомікі ўдарыла па дабрабыце расіян і тых беларусаў, што прывязаныя да расійскага рынку.

Колькі складае сярэдні заробак у Расіі пасля дэвальвацыі?

Апошнія падлікі Расстата датычаць лістапада 2015 года. Тады сярэдні заробак складаў 33347 рублёў. Прычым ад месяца да месяца ён змяняецца неістотна, то вырастаючы, то падаючы на некалькі працэнтаў.

Паколькі большасць краін Еўропы арыентаваная на еўра, то і падлікі будзем праводзіць у гэтай валюце.

Калі пералічыць расійскі заробак, атрымаецца ўсяго 407 еўра «бруднымі». Падаходны падатак параўнальна невялікі, таму на руках заставалася 354 еўра.

У якіх еўрапейскіх краінах заробкі яшчэ меншыя?

Антырэкордамі могуць пахваліцца толькі астатнія постсавецкія краіны. За апошняе месца «змагаюцца» Украіна і Малдова. Наступнай у рэйтынгу ідзе Беларусь.

**Самыя бедныя краіны Еўропы, у еўра**

| № | Краіна | Сярэдні заробак «бруднымі» | Сярэдні заробак «чыстымі» | Актуальнасць | Сярэдні заробак «чыстымі» пры цяперашнім курсе |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Украіна | 202 | 163 | снежань 2015 | 154 |
| 2 | Малдова | 213 | 175 | лістапад 2015 | 169 |
| 3 | Беларусь | 374 | 322 | снежань 2015 | 273 |
| 4 | Расія | 407 | 354 | лістапад 2015 | 341 |
| 5 | Балгарыя | 452 | 354 | верасень 2015 | 354 |
| 6 | Македонія | 525 | 358 | лістапад 2015 | 357 |

**Ягор Марціновіч**

## «Перспектыва» склікае іпэшнікаў на мітынг

**Заяўка пададзеная на плошчу Бангалор на 15 лютага.**

Грамадскае аб'яднанне «Перспектыва» накіравала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне мітынгу 15 лютага. Пра гэта заявіў лідар аб'яднання Анатоль Шумчанка на чарговым форуме прадпрымальнікаў.

Гандляры па-ранейшаму спадзяюцца на адмену ўказа №222, паводле якога з 1 студзеня павінны прадаваць тавары лёгкай прамысловасці толькі з суправаджальнымі дакументамі. Многія прадстаўнікі малога бізнэсу праз гэта спынілі працу. Яны сцвярджаюць, што не маюць магчымасці працаваць па новых правілах.

Шумчанка прапануе гандлярам яшчэ адзін варыянт рашэння праблемы: сабраць подпісы і ўнесці на разгляд уладаў законапраект аб працы індывідуальных прадпрымальнікаў.

**ЯМ**

## Дзе ў Беларусі жывуць найбагацей?

Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэдніх заробках у кожным з раёнаў Беларусі за апошні месяц 2015 года. Снежань — традыцыйна самы высокааплатны месяц за кошт разнастайных прэмій.

Сярэдні заробак у цэлым у Беларусі склаў 7,42 мільёна рублёў. Але толькі ў чатырох гарадах і чатырох раёнах ён быў вышэйшы за сярэдні.

**Самыя багатыя рэгіёны**
1. Салігорскі раён — 14,86 мільёна
2. Мінск — 10,46 мільёна
3. Мінскі раён — 9,14 мільёна
4. Наваполацк — 8,85 мільёна
5. Дзяржынскі раён — 8,25 мільёна
6. Гродна — 7,68 мільёна
7. Брэст — 7,56 мільёна
8. Рэчыцкі раён — 7,5 мільёна

**Самыя бедныя рэгіёны**
1. Шаркаўшчынскі — 4,22 мільёна
2. Мёрскі — 4,31 мільёна
3. Ушацкі — 4,39 мільёна
4. Лоеўскі — 4,48 мільёна
5. Шумілінскі — 4,52 мільёна
6. Браслаўскі — 4,55 мільёна
7. Сенненскі — 4,56 мільёна
8. Бешанковіцкі — 4,57 мільёна
9. Мсціслаўскі — 4,6 мільёна

Звяртае ўвагу, што 7 з 9 найбяднейшых раёнаў — у Віцебскай вобласці.

## Экс-міністр Галаванаў просіць хаця б $1 мільён

Сталічны рынак элітнай нерухомасці ўжо каторы месяц знаходзіцца ў заняпадзе. Не знаходзяць купца нават самыя ласыя прапановы.

Сям'я былога міністра юстыцыі Віктара Галаванава ўсё яшчэ спрабуе прадаць свой катэдж у Драздах. Надзел быў атрыманы ў другой палове 2000-х. Мусіць, задарма.

Падрабязнасці гэтай гісторыі «Наша Ніва» пісала ў №32 ад 26 жніўня 2015 года.

Попыту на дом няма, таму сям'я экс-чыноўніка вымушаная раз за разам змяншаць свае апетыты. Першая цана складала $1,4 мільёна.

Цяпер жа Галавановы гатовыя саступіць катэдж за $1 мільён. Агульная плошча дома складае 267 м², гэта нямнога ў параўнанні з суседзямі. Калі пералічыць запытаную Галаванавым цану на квадратныя метры, атрымліваецца $3745 за м².

**ЯМ**



## Сціісла

### Дзірку ў бюджэце могуць заткнуць падаткам на мабільную сувязь і інтэрнэт

Міністэрства фінансаў рыхтуе праект указа аб увядзенні з 1 сакавіка абаротнага падатку на паслугі сувязі ў памеры 10%. Гаворка ідзе пра паслугі мабільнай сувязі, доступу да інтэрнэту і IP-тэлебачання (напрыклад, «Зала»).

### Энергію атрымаюць з «вадкіх бытавых адкідаў»

На працягу трох наступных гадоў у Мінску будзе рэалізоўвацца інвестыцыйны праект па ўкараненні біягазавых установак на ачышчальных збудаваннях. Яго кошт — каля $30 мільёнаў. Падрадчыкам будзе нямецкая будаўнічая кампанія. Біягаз — адзін з відаў альтэрнатыўнай энергіі, ён выпрацоўваецца з арганічных адходаў, напрыклад каналізацыйных сцёкаў, гною, бытавых адкідаў.

### Звесткі пра ўсе зробленыя дзяржзакупкі з'явяцца ў інтэрнэце

Раней публікавалася толькі інфармацыя пра дамовы, цана якіх складала 3000 базавых велічынь і больш.

### Утылізацыйны збор павялічваецца ў 8,25 раза

Збор з фізічных асобаў, якія ўвозяць аўтамабіль з Расіі, рэзка павялічваецца. Калі машына не старэйшая за 3 гады, давядзецца заплаціць 4,95 мільёна рублёў, калі старэйшая — 7,425 мільёна.

### Ірану вярнулі замежныя активы на $100 мільярдаў

Рахункі былі замарожаныя ў сувязі з узмацненнем жорсткасці міжнародных санкцый супраць краіны ў 2012 годзе. Іран не мог імі карыстацца, бо быў адключаны ад сусветнай банкаўскай сістэмы пераводаў. Адмена санкцый паспрыяла заключэнню кантрактаў і інвестыцыйных дамоваў на дзясяткі мільярдаў долараў.

**ЯМ**

# Лукашэнка застаўся ў Сочы «на кароткачасовы адпачынак»

**Якія яшчэ курорты асвойваў кіраўнік краіны?**

Сустрэча ў Сочы з расійскім прэм'ер-міністрам Дзмітрыем Мядзведзевым мела працяг.

«Аляксандр Лукашэнка таксама апрабаваў гарналыжныя трасы і прыняў рашэнне застацца ў Сочы на кароткачасовы адпачынак», — адзначыла прэс-сакратар кіраўніка дзяржавы Наталля Эйсмант.

Зрэшты, амаль заўсёды цягам года Лукашэнка знаходзіць некалькі магчымасцяў для адпачынку — звычайна ў лютым і верасні.

Дзе кіраўнік краіны адпачываў раней?

### Сочы (Расія)

Самы дарагі курорт Расіі. Адпачываць там камфортна як зімой, гэтак і летам. Для Лукашэнкі — гэта самы папулярны маршрут, асабліва ў той час, калі можна пакатацца на лыжах.

Блізу Сочы ў Краснай Паляне Лукашэнка мае ўласную рэзідэнцыю, якая пабудаваная на тэрыторыі гасцініцы «Беларусь». Зусім побач знаходзіцца рэзідэнцыя Уладзіміра Пуціна «Бачароў ручай».

Вось як апісвала рэзідэнцыю Лукашэнкі «Новая газета»: «Перад будынкам — плошча з фантанам, зялёны газон, праз які цягнецца выбрукаваная пліткай дарожка. Непасрэдна да двухпавярховага будынка рэзідэнцыі вядзе мармуровая лесвіца. Такім жа мармурам аздобленыя сцены».

У Красную Паляну Лукашэнка найчасцей прыязджае з вялікай кампаніяй: бізнэсоўцы, чыноўнікі, спартсмены. Раней у Сочы прыязджалі і папулярныя беларускія спявачкі.

Часам цэлая хакейная каманда прэзідэнта таксама «сумяшчала» знаходжанне ў Сочы з адпачынкам Лукашэнкі.

### Зээфельд (Аўстрыя)

Самы скандальны адпачынак кіраўніка Беларусі адбыўся зімой 2002, калі ён накіраваўся ў Аўстрыю. Праз восем гадоў быў абвешчаны кошт адпачынку — 200 тысяч еўра. Прычым фінансавалася паездка ў абыход аўстрыйскага заканадаўства.

Люкс Лукашэнкі каштаваў 700 еўра за суткі. Разам з кіраўніком краіны знаходзілася яшчэ 17 чалавек. Напрыклад, сыны Віктар і Дзмітрый жылі разам у адным нумары.

Разам з Лукашэнкам там таксама знаходзіліся доктарка Ірына Абельская, даўні сябар Уладзімір Канаплёў, кіраўніца спраў прэзідэнта Галіна Жураўкова, памочнік Уладзімір Макей, прэс-сакратарка Наталля Пяткевіч, ахоўнік Андрэй Уцюрын, спецназавец Мікалай Карпянкоў.

З афіцыйных дакументаў вынікала, што Лукашэнка падчас адпачынку ў Аўстрыі атрымаў невялікую траўму сцягна. Верталёт хуткай дапамогі перавёз прэзідэнта ў мясцовую клініку. Такса за хвіліну палёту — 66 еўра, агулам машына налятала на 7260 еўра. Пасля гэтым адпачынкам яшчэ доўга цікавілася аўстрыйская пракуратура. Справа ў тым, што ўвесь адпачынак Лукашэнку аплочваў тагачасны кіраўнік алімпійскага камітэта Аўстрыі Хайнц Юнгвірт.

### Замак Брдо (Славенія)

У 2004 годзе прэс-служба Лукашэнкі яшчэ афіцыйна не абвяшчала, што кіраўнік краіны знаходзіцца ў адпачынку. Так, да апошняга паездку ў Славенію трымала пад сакрэтам тагачасная прэс-сакратарка Наталля Пяткевіч.

У Славенію лідара Беларусі запрасіў бізнэсовец Янэз Шкрабец, які вёў актыўную дзейнасць на постсавецкай прасторы. Замак Брдо — гэта гатэльны комплекс службы дзяржаўнага пратакола Славеніі, але спыніцца там можа кожны ахвочы.

Супрацоўнікі гатэля сцвярджалі, што за пражыванне было заплачана наяўнымі. Прэзідэнцкі нумар там каштаваў 850 даляраў за суткі.



Замак Брдо — урадавая рэзідэнцыя, але адпачываць там можа кожны.



### Чымбулак (Казахстан)

Пры канцы 2004 года Аляксандр Лукашэнка тыдзень пракатаўся на лыжах на курорце Чымбулак у Казахстане.

«Там лёгка заспець целаахоўнікаў прэзідэнта ў лыжных касцюмах, якія з'язджаюць па схілах і прыглядаюць за паводзінамі адпачывальнікаў», — пісала ў тыя дні «Камсамольская праўда».

Найхутчэй, Лукашэнка спыняўся ў гатэлі пры курорце, люкс у ім каштаваў 364 еўра за суткі.

Разам з Лукашэнкам у Казахстане адпачывала і хакейная каманда. У таварыскай гульні з ветэранамі Алматы дружына кіраўніка Беларусі ўзяла верх — 11:4.

### Капаонік (Сербія)

Адзін з самых маштабных адпачынкаў Лукашэнка правёў у пачатку сакавіка 2009 года.

Як паведамлялі сербскія СМІ, з аэрапорта Ніша да курорта Капаонік беларускую дэлегацыю даставілі 50 аўтамабіляў. А ўсяго эскорт кіраўніка Беларусі складаў 150 чалавек. «Разам з ім былі дзеці з сем'ямі, ахова, кухары, нянечкі дзяцей», — казалі ў гатэлі «Гранд». Гэтая гасцініца пазіцыянуе сябе як «месца для тых, хто хоча сумясціць актыўны адпачынак з раскошай і камфортам».

### Цахкадзор (Арменія)

Неўзабаве пасля вяртання з Сербіі Лукашэнка накіраваўся ў Арменію, дзе зноўку ж спалучыў афіцыйныя сустрэчы з катаннем на лыжах на курорце Цахкадзор за 50 кіламетраў ад Ерэвана.

Там ён спыніўся ў пяцізоркавым гатэлі *Multi Rest House* — на той час гэта быў самы сучасны гатэль на курорце.

Адказваючы на пытанні журналістаў у Цахкадзоры, Лукашэнка трымаў на каленях маленькага Колю.

### Альпы (Швейцарыя)

Адна з найбольш таямнічых паездак кіраўніка дзяржавы адбылася ў лютым 2010 года ў Швейцарыю. Афіцыйныя крыніцы паведамлялі, што гэта дзяржаўны візіт, які будзе сумешчаны з кароткачасовым адпачынкам. Праз нейкі час брусэльскае выданне «*EUobserver*» паведаміла, што ў Швейцарыю Лукашэнка ездзіў для таго, каб зрабіць аперацыю на прастаце.

### ААЭ

З цёплых краін Лукашэнка аддае перавагу Аб'яднаным Арабскім Эміратам. За апошнія гады ён двойчы пабываў там з візітамі, што выглядалі як завуаляваныя адпачынкі.

Восенню 2014 года арабскія тэлеканалы паказалі кадры, як прэзідэнт Беларусі наведвае мячэць імя шэйха Заіда ў Абу-Дабі. Разам з ім была вялікая дэлегацыя: мультымільянеры Юрый Чыж, Аляксандр Шакуцін, хакейны трэнер Міхаіл Захараў, тэнісны трэнер Сяргей Цыцэрын, кіраўнік федэрацыі гандбола Уладзімір Канаплёў, памочнік па пытаннях бяспекі Віктар Лукашэнка. А таксама маладая жанчыны ў чорным адзенні з капюшонамі.

### Венесуэла

У сакавіку 2010 года былі прадэманстраваныя кадры, як Аляксандр Лукашэнка на пляжы Атлантычнага акіяна дае інтэрв'ю журналісту газеты «*Diario La Nacion*». «На пляжы голым я яшчэ нікому інтэрв'ю не даваў», — сказаў Лукашэнка. Гэта было падчас паездкі ў Венесуэлу.

**Зміцер Панкавец**



Лукашэнка і Коля ў Абу-Дабі.

## 53% насельніцтва лічаць сябе праваслаўнымі...

**...але выконваюць усе рэлігійныя абрады толькі 1,8% беларусаў.**

Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта правёў сацыялагічнае даследаванне, прысвечанае стаўленню насельніцтва да рэлігіі.

Ці вераць беларусы ў Бога? 63,5% апытаных адказалі, што вераць. Яшчэ 5% вераць у звышнатуральныя сілы. 22% апытаных не змаглі адназначна вызначыць сваё стаўленне да веры, а 8,5% пазначылі, што ў Бога не вераць.

Як падзяляюцца вернікі паміж асноўнымі канфесіямі? Праваслаўнымі назвалі сябе 83% рэспандэнтаў, каталікамі — 9,5%. Але гэта доля ад агульнай колькасці вернікаў.

Калі ж пералічваць ад усяго насельніцтва, то праваслаўных — 52,7%, а каталікоў — 6%.

Іншыя рэлігіі і канфесіі прадстаўленыя ў Беларусі на ўзроўні статыстычнай памылкі. Сукупная колькасць іх склала 1,3% насельніцтва.

Актыўных вернікаў у Беларусі зусім мала. Паводле апытання, пастаянна бяруць удзел у набажэнстве 3,6% насельніцтва краіны, а выконваюць абрады — толькі 1,8% насельніцтва.

**ЯМ**

### Цытата



**«Назвала сына ў гонар Сталіна»**

«Іосіфу пяць гадоў. Назвала ў гонар Сталіна. Калі мне было 25, прачытала кнігу пра яго. І вырашыла, што, калі нараджу сына, абавязкова назаву Іосіфам. Ды і паводле Бібліі гэтае імя вельмі моцнае», — расказала найлепшая футбалістка Беларусі — 2015 Святлана Асташова.

**Паводле часопіса «Большой футбол»**

# Трагедыя ў Барысаве забрала шэсць жыццяў, або Як важна правяраць спраўнасць вентыляцыі

**У Барысаве загінулі ўсе жыхары дзвюх кватэр, у тым ліку двое дзяцей. Прычына дакладна невядомая, але, хутчэй за ўсё, людзі ўчадзелі.**

Бяда здарылася 27 студзеня ў старой хрушчоўцы на вуліцы Дняпроўскай, у былым вайсковым гарадку Барысава. У дамах там стаяць газавыя калонкі.

У першым пад'ездзе знайшлі загінулымі жыхароў кватэры на трэцім паверсе — пажылую пару гадоў 70-ці. Крыху пазней, увечары, узламалі дзверы ў кватэры на другім паверсе — там загінула сям'я Булай з чатырох чалавек. Сярод іх двое дзяцей: 10-гадовы Міша і 17-гадовая Паўліна.

Жыхары гэтага дома ў дзень трагедыі тройчы выклікалі газавікоў. Дом быў абсталяваны газавымі калонкамі, людзі скардзіліся, што смярдзела газам. Але ж версіі пра ўдушша ад прыроднага газу пярэчыць тое, што газавікі, як сцвярджаюць, газу ў паветры не фіксавалі.

Версіі пра атручванне чадам пярэчыць той факт, што жыхары дома чулі выразны пах газу. Між тым чад не мае паху.

Толькі экспертыза пакажа, ад якога менавіта рэчыва загінулі людзі.

Адна з жыхарак, Настасся, з мужам і чатырохгадовым дзіцем жыве ў першым пад'ездзе на чацвёртым паверсе. Яна яшчэ а 6-й раніцы адчула пах газу. Выклікала і хуткую, і газавікоў, і супрацоўнікаў домакіраўніцтва, але ўсе прыборы паказвалі, што ўсё ў парадку. Бутану ў паветры не выяўлялі.

Але, кажа жанчына, ёй было вельмі млосна, ногі падкошваліся.

На другі выклік газавікі не прыехалі. Сказалі, успамінае Настасся, што гэта пах бытавой хіміі, адаранту. Таму Настасся звярнулася ў домакіраўніцтва. Адтуль прыйшло пяць чалавек камісіі, якія запэўнілі, што ўцечкі газу не было.

Тады жанчына пайшла па суседзях: на другім і на трэцім паверсе дзверы ніхто не адамкнуў.

Днём Насці стала так млосна, што яе забралі ў бальніцу. З дзіцем застаўся муж, які вярнуўся з работы ў Мінску. Мужчына кажа, што першы раз адчуў няясны пах яшчэ ў тры ночы 27-га. Пах стаяў, і калі ён ад'язджаў на працу — а 6.45. Але на пах газу было не вельмі падобна, таму ён не вельмі і хваляваўся.

**Здагадацца пра ўцечку чаднага газу самому немагчыма — ён не мае паху. Выйсце адно — ставіць сігналізатары чаду. Кошт іх на сёння тысяч 800**



Той самы дом на Дняпроўскай,6

Каля шасці вечара да пажылой пары на трэцім паверсе прыехаў сын. Бацькі не адказвалі на званкі, і ён вырашыў высадзіць дзверы. У кватэры знайшлі загінулых мужа і жонку.

Тады да дома прымчалі і службы газу, і хуткая, і міліцыя. Людзям казалі: адкрывайце вокны, чадны газ!

У сям'і на другім паверсе быў сабака: суседзі звыклі, што ён увесь час брэша. І толькі пад вечар звярнулі ўвагу: з кватэры ні гуку.

Папрасілі ўзламаць дзверы. Аказалася — страх...

На кухні каля стала ляжалі мама і дачка-адзінаццацікласніца. У ванне — 10-гадовы сын, чацвёртакласнік. Вады ў ванне не было, мусіць, не паспеў набраць. Цела бацькі-вайскоўца знайшлі ў зале на канапе. Калі выратавальнік падышоў да калонкі, яна шыпела, і ён перакрыў кранік. Магчыма, не было цягі, таму калонка патухла.

Як мяркуецца, магла быць праблема з выцяжкай.

Калі на газаразмеркавальнай станцыі дадаюць зашмат адарантаў у прыродны газ, то пры яго гарэнні не ўвесь адарант выгарае. І тады, калі выцяжка не працуе, ён дае ў паветра пах, які ўсе прымаюць за пах газу.

Можа быць, што вентканал забіўся смеццем ці лёдам. У выніку чад ішоў у дом, а не ў комін. Пры гэтым паралельна распаўсюджваўся і пах таго водару, што ў газ падмешваюць.

Дарэчы, суседзі кажуць, што за тры дні да таго, 24 студзеня, у доме мусілі правяраць газавыя калонкі. Але жыхары дома сцвярджаюць, што з праверкай напраўдзе ніхто не прыходзіў.

У Мінгазе каментаваць сітуацыю не могуць, пакуль няма вынікаў следства.

Але сваім меркаваннем падзяліўся з «Нашай Нівай» Руслан Курбако, дырэктар мінскага ТАА «АкваБелГаз», якая займаецца будаўнічым і газавым абсталяваннем.

«Хутчэй за ўсё, прычына — чадны газ. Варыянты могуць быць наступныя. Можа, дрэнна працаваў дымаход. Ці самі газавыя калонкі не абслугоўваліся працяглы час, яны прагарэлі, і чадны газ ішоў у памяшканне проста з калонак.

Здагадацца пра ўцечку чаднага газу самому немагчыма — ён не мае паху. Выйсце адно — ставіць сігналізатары чаду. Кошт іх на сёння тысяч 800. Праўда, іх рэдка возяць. У нас жа як: пачынаюць вазіць, калі штосьці здарыцца. Раней і сігналізатары ўцечкі газу рэдка вазілі, пакуль, гады два-тры таму, не адбылося некалькі выбухаў у прыватных дамах, бо людзі доўга не абслугоўвалі катлы, — кажа Руслан Алегавіч. — Трэба, каб у хаце была нармальная вентыляцыя! А то ў старых хрушчоўках выцяжкі нярэдка ледзь-ледзь працуюць.

Коміны маюць правяраць адпаведныя службы. Само сабой, у шматкватэрным доме чалавек сам не зможа прачысціць комін».

Следчы камітэт афіцыйную версію пакуль не агучвае. На сёння распачата крымінальная справа па факце неналежнага выканання службовых абавязкаў службовымі асобамі МПУ «Барысаўміжрайгаз», што пацягнула гібель шасці чалавек.

**УШ**





## У Брэсце настаўніцу знайшлі мёртвай, паедзенай дзікімі звярамі

Цела брэсцкай настаўніцы, якая знікла больш за месяц таму, знойдзенае ля мясцовай ракі Мухавец.

Чалавек гуляў з сабакам, і той прынёс яму чалавечыя пальцы.

На выклік выехала следчая група. Пасля працяглых пошукаў сумесна з салдатамі ўнутраных войскаў знайшлі цела жанчыны, скаванае лёдам. Труп знаходзіўся ў берагавых зарасніках. Фрагменты цела, якія выступалі з лёду, былі пакусаныя.

Знойдзенае цела апазнаў муж загінулай.

На целе выяўленыя ювелірныя вырабы, іх ніхто не скраў. Дакладныя абставіны смерці высвятляюцца.

Следчыя гавораць пра магчымае самагубства. Праўда, няясна, як цела магло праляжаць так доўга ў месцы, у якім штодня ходзяць рыбакі.

38-гадовая Валянціна Голуб, настаўніца геаграфіі брэсцкай школы №9, знікла 22 снежня. Яна сышла з працы каля 14.00, і больш яе ніхто не бачыў.

**УШ**

**In memoriam**

# Памяці Клаўдзіі Анісавай

На 96-м годзе пакінула гэты свет Клаўдзія Анісава...

Беларуска, Чалавек Сусвету, чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Мастацтвазнаўца, заслужаны дзеяч мастацтваў Карэліі, сябра Саюза мастакоў Расіі, аўтар больш чым 150 артыкулаў, каталогаў, манаграфій.

Пераехалі яны з сястрой Лідзіяй у Свіслач Пухавіцкага раёна ў 1989 г. з горада Кірава (Вяткі). Вярнуліся на Радзіму пасля 48 гадоў вандравання.

Але вернемся да пачатку. Нарадзілася Клаўдзія Паўлаўна 26 снежня 1926 у куточку раю на зямлі — у Рагачове.

Мама працавала ў гарадской сталоўцы кухаркай і была для маленькай дачушкі анёлам — купляла шматтомныя кнігі па гісторыі, вадзіла на ялінку ў сям'ю да больш заможнай каляжанкі. Там ёй таксама дарылі кнігі. Дзяўчынка расла вялікай кніжніцай.

Скончыўшы школу, паступіла на гістфак БДУ. Калі пачалася вайна, Клаўдзія разам са шматлікімі бежанцамі рушыла пехатой з Менска ў Рагачоў да мамы. І калі пагрукала ў дзверы, матка яе, схуднелую і змораную, ледзь пазнала.

Здабыўшы недзе каня, сям'я рушыла далей на ўсход. Эвакуявалі іх у Казахстан. Маці накіравалі працаваць у сталоўку (што і выратавала сям'ю ад голаду), а студэнтку-першакурсніцу Клаўдзію — настаўніцай малодшых класаў.

На ўсё жыццё Клаўдзія запомніла апортавыя сады каля Караганды (апорт — гэта такі духмяны казахскі яблык) і глыбокае начное неба з безліччу зорак.

Пасля вайны сям'я не стала вяртацца на папялішча. Лідзія, малодшая сястра Клаўдзіі, засталася жыць з маці ў глінянай казахскай мазанцы. Клаўдзія аднавілася на другі курс гістфака Ленінградскага ўніверсітэта.

Калі прымалі дакументы, пагядзелі на яе і прапанавалі факультэт гісторыі мастацтва. Не помнячы сябе ад шчасця, Клаўдзія стала займацца ўлюбёнай справай — вучыцца на мастацтвазнаўцу.

Яе любімым выкладчыкам быў Пунін — «бліскучы лектар, выбітны мастацкі крытык і тэарэтык мастацтва, які шчыра і бескампраміснa адстойваў каштоўнасці мастацтва» (са слоў самой Клаўдзіі). Ён і сказаў, што ў «Анісавай ёсць вока». Гэта была найвышэйшая ацэнка.

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1949 г. маладога спецыяліста накіравалі ў Вяцкі мастацкі музей імя Васняцовых. На жаль, не трапіла яна на родную Беларусь, а стала чарговым каштоўным каменьчыкам культуры суседняй краіны...

Пахаваўшы ў Казахстане маму, да сястры ў Кіраў пераехала і сястра Лідзія. Аддана працуючы на ніве расейскай культуры, Клаўдзія адчувала тугу па сваім, родным, беларускім... Будучы паважанай у Кіраве, Клаўдзія разам з сястрой усё ж прымаюць рашэнне вярнуцца на Радзіму. Гэта 90-я гады, «новае неба над новай краінай». У гэту атмасферу і акунулася з уласцівай ёй апантанасцю Клаўдзія Паўлаўна.

За год-два яна па-новаму авалодала роднай мовай. Завязала ліставанне, а тое і сяброўства, з Алесем Жамойцiным, Міхалам Анемпадыставым, Генадзем Сагановічам, Генадзем Шэпелевым. Узяла да сябе вучняў са Свіслачы.



І ўвесь час заставалася нястомнай кніжніцай. Апошняй у яе руках была кніга Марціна Хайдэгера «Час і бытнасць».

**Яніна Пушкіна**

# 600 тысяч за дзень здаровага харчавання? «Ды людзі тыдзень жывуць за такія грошы»

У Мінску пачала працу дастаўка экалагічнай ежы «Шчасце есці».

Служба дастаўкі знаходзіцца па адрасе Арлоўская, 40а, на месцы былога рэстарана *«BierStrasse»*. Нягледзячы на тое, што дастаўка працуе ўжо цяпер, у самім памяшканні працягваецца рэканструкцыя.

У меню — «толькі здаровая і экалагічная ежа». Ежа не ўтрымлівае ніякіх дадаткаў, фарбавальнікаў і дастаўляецца ў экалагічных скрынях.

Прынцып дастаўкі вельмі просты: вы тэлефануеце, складаецца анкета з вашымі пажаданнямі і паказчыкамі здароўя, і вуаля — ваш рацыён харчавання гатовы.

Калі ў вас ёсць сумневы ў выбары рацыёну, то дыетолаг складзе індывідуальны прыём ежы для вас, які ўваходзіць у кошт дастаўкі.

Таксама вы можаце прынесці рэкамендацыі ад вашага дыетолага, якія будуць улічаны ў дастаўцы. Заснавальнікі службы дастаўкі сцвярджаюць, што перад адкрыццём яны аб'ездзілі шмат замежных краін, каб набрацца вопыту.

На выбар прадстаўленыя 9 рацыёнаў, якія ўключаюць пяціразовае харчаванне: 3 асноўныя прыёмы страваў і 2 перакусы.



**Рацыён «Падарунак для сэрца»** каштуе за 1 дзень — 600 тысяч рублёў, 21 дзень — 11 450 000.

**Рацыён «Збалансаванае вегетарыянства»** каштуе за 1 дзень 575 тысяч рублёў, 21 дзень — 10 980 000.

**Рацыён «Бязважкасць»** каштуе за 1 дзень 575 тысяч рублёў, 21 дзень — 10 980 000.

Ёсць рацыёны, складзеныя для ачышчэння арганізма.

Ёсць спецыяльнае «разгрузачнае» меню: каб скінуць вагу і пры гэтым не галадаць. У рацыён уваходзяць зялёныя кактэйлі, збалансаваныя нізкакаларыйныя перакусы.

Ёсць меню для вегетарыянцаў і тых, хто выконвае пасты. У такім рацыёне адсутнічае мяса, рыба, яйкі, жэлацін.

Сам жа рацыён складаецца з натуральнага негазаванага напою, фасолевага патэ на падушцы з гародніны, энергетычных аладкаў з парасткаў з агароднінным соусам, фруктовага дыгідраванага грыльяжу, марскіх палачак, лісця салаты і духмяных зёлак з гарбузовым алеем, гарбузовага супу, тэрыну з гародніны, пудынгу з насеннем годжы, гародніны ў какосавым малацэ, хлябцоў да супу.

А вось меню, якое называецца «Падарунак для сэрца».

Гэта нізкахалестэрынавае меню, разлічанае на 2200 здаровых калорый. Праграма складаецца з прадуктаў з паніжаным утрыманнем тлушчаў, цукру і солі. Падыходзіць людзям з павышаным ціскам, людзям, што пакутуюць ад хранічнай стомленасці, і ласунам, якія раскаяліся ў сваім граху.

У рацыён уваходзяць: сырнікі тварожныя з грэцкім арэхам, перапёлчыные яйка з зялёным мусам у гняздзе з травы з парасткамі люцэрны, суп-даў з сачыўкі з гароднінай, стронга ў кунжуце са струковай фасоллю, фруктова-ягаднае жэле з фізалісам, долмы з тварагом, ікра агародніная, патэ з грэчкі, зялёны кактэйль «Антыстрэс», амарантавыя хлябцы.

У рацыён «Бязважкасць» уваходзяць стравы з нізкім утрыманнем вугляводаў. Разлічаны на 1200—1300 ккал і пяціразовае харчаванне.

У рацыён уваходзіць фрыттата з гароднінай, клубнічная нізкакаларыйная пана кота, супп'юрэ з брокалі, курыца ў рысавай паперы, фаршыраваная грыбамі і гароднінай, дзікі арганічны рыс, свежае кавале, палачкі з гародніны з пікантным соусам, панір у норы, брусэльская капуста, зялёны кактэйль «Духмяны», булачка з ільном.

Нарэшце, рацыён «Задавальненне» ўключае булі дэ міл, салата з сырам фета ў кунжуце, цыбулевы суп, цяляціна пад соусам «Вітэла таната», карпача з буракоў, шпінатныя шарыкі са спіруліны, салата з прарослым махаем, зялёны кактэйль «Танізуючы», амарантавыя хлябцы.

Праграмы харчавання складаюцца разам прафесійнымі дыетолагамі. Таму рэстаратары абяцаюць ачысціць ваш арганізм усяго за 5 дзён.

«Шчасце есці» абяцае анлайнтрансляцыі ў дадатку *Periscope*.

Пытанні выклікае толькі цана гэтых радасцей. У сярэднім рацыён з дастаўкай каштуе каля 600 тысяч на дзень. «За гэтыя грошы нармальны чалавек тыдзень жыве», — напісаў на сайце NN.BY Міхаіл. «О, за мой заробак можна есці аж 6 дзён», — адзначыў Маркевіч. «Гэта для якой краіны такія цэны?» — пытаецца Анатоль.

Сапраўды, багатыя ў Мінску жывуць зусім іншым жыццём ды іншымі патрэбамі, чым 99% астатніх насельнікаў Беларусі.

**Мікіта Недаверкаў**

### Водгукі на nn.by

«Ну і фокуснікі ж, адкуль гэтыя «экалагічныя» прадукты, з якіх гатуецца ежа?! Трэба працьму дакументаў аформіць, каб можна было пазіцыянаваць прадукт як «экалагічны», а то пры пераапрацоўцы мяса звычайнай курыцы са звычайнай птушкафабрыкі (хутчэй за ўсё) — voila становіцца экалагічным. З гумарам у іх усё ў парадку. Раз пакаштаваць можна.

Карпача з буракоў!!! А калі хто грэбуе звычайнай салатай з буракоў, якую можна вельмі апетытна прыгатаваць без асаблівых затрат часу і фінансаў, няхай есць карпача.

Дарэчы, многія калегі мужа (і ён таксама), сярод якіх ёсць аўстрыйскія айцішнікі, часта бяруць «ссабойкі». Яшчэ можна знайсці час на інфармацыю па дыеталогіі, калі хто хоча, а не хоча — няхай плоціць»

**Вета**

Нават тыя, хто зарабляе такія грошы, наўрад ці будуць есці менавіта гэту ежу. Прасцей самому вырасціць садавіну і некальскі трусаў, чым аддаваць па 10—12 мільёнаў штомесяц невядома за што!

**ЯўгеN**

## Уладальнік найлепшага ў свеце рэстарана знойдзены мёртвым

Французскі шэф-кухар Бенуа Віальe, рэстаран якога ў снежні 2015 года быў названы найлепшым у свеце, быў знойдзены мёртвым у сябе дома.

44-гадовы Віальe быў уладальнікам рэстарана *L'Hotel de Ville* ў мястэчку Крысьер, што знаходзіцца непадалёк ад швейцарскага горада Лазана.

Рэстаран атрымаў тры мішленаўскія зоркі і ў мінулым годзе ўзначаліў спіс 1000 найлепшых рэстаранаў свету паводле версіі Міністэрства замежных спраў Францыі.

Па паведамленні швейцарскай паліцыі, Віальe, як мяркуецца, паконччыў з сабой.

У панядзелак ён павінен быў прысутнічаць на прэзентацыі новага выпуску «Чырвонага даведніка Мішлен» у Парыжы, паведамілі швейцарскі Сайт *24 Heures*.

«Чырвоны даведнік Мішлен» — самы аўтарытэтны ў свеце рэстаранны рэйтынг.

Шэсць месяцаў таму памёр настаўнік Віальe, папярэдні шэфкухар рэстарана *L'Hotel De Ville* Філіп Раша.

Віальe быў заўзятым паляўнічым і быў вядомы сваімі фірмовымі стравамі з дзічыны, пра якія ён у мінулым годзе выпусціў вялікую кнігу.



**Бі-бі-сі**

На сэрцы

## Падарожжа з Мінска ў Мажайск і назад



Піша **Валер Булгакаў**.

З'ездзіў з Алесем Пашкевічам на мінулым тыдні ў Мажайск (райцэнтр за 80 км ад Масквы), дзе ў тамтэйшай друкарні забіралі новую кнігу.

У кнізе быў наварочаны макет (некалькі сотняў здымкаў, у тым ліку за 60 штук каляровых), плюс хацелі выдаць якасна, у цвёрдай вокладцы, з дзвюма закладкамі-лясэ, таму выбар паў на Мажайскі паліграфкамбінат.

Хачу падзяліцца ўражаннямі.

1. Так званая алімпійка ў Дубровенскім раёне ўяўляе з сябе жалюгоднае відовішча, яма на яміне. Не верце ў міф пра яе цудоўны стан.

Наагул, стан дарогі ў Віцебскай вобласці надзвычай кепскі. І гэта платная дарога!

2. Стан расейскага ўчастка ад мяжы з Беларуссю і да Смаленска лепшы, чым віцебскі адцінак, але далей таксама пачынаюцца ямы і выбоіны.

3. На дарозе шмат міліцыі (пад Вязьмай нас спыніла ГІБДД), але пашпартнага кантролю на мяжы няма (летась быў).

4. Расейская дарожная паліцыя палюе на беларускія машыны, якія могуць цягнуць тавар, таму пры сабе трэба мець усе спраўныя дакументы. У мяне правяралі нават медычную даведку — гэта пры тым, што за сотні падарожжаў у Літве і Польшчы мяне наагул толькі раз спыняла дарожная паліцыя.

5. На зваротным шляху зразумеў, чаму мне рэжа вока расейскі краявід па-абапал дарогі. На ўсім кавалку ад Мажайска і да самай мяжы Беларусі няма НІВОДНАГА засеянага ці хоць як урбленага поля. Усцяж балотнага віду бярозкі, іншая чэзлая расліннасць, якая вока не цешыць.

6. Як заязджаеш у Расею, першыя вёскі, якія ляжаць пры дарозе, называюцца «Птушкі» і «Зюзькі». Беларускія назвы трапляюцца прынамсі да Дарагабужа.

7. Мажайск — горад дэпрэсіўны. Што ўразіла: машыны спрэс ездзяць па тратуарах, любяць паркавацца каля самага ганку-ўваходу ў крамы.

8. Самі крамы часткова захаваліся ў нязменным выглядзе з савецкіх часоў — толькі «обветшалі».

9. Зайшоў у аўтакраму купіць амывайку, у ёй смярдзела, на падлозе ляжаў бруд, плюнуў і выйшаў.

10. Вяртаючыся, настроіўся на ФМ-станцыю радыё «Віцебск». Пасля выпуску навін, прачытанага а 21.00, паставілі АДНУ КАМПАЗІЦЫЮ з нейкага навамоднага стылю, якая гучала роўна да 22.00.

11. Упершыню праехаў 45 км па новай акружной Мінска. За ўвесь час сустрэў на ёй 4 (чатыры) машыны.

Дадам пастфактум яшчэ 2 пункты:

12. Як заязджаеш у Маскоўскую вобласць, цябе сустракае вялізны білборд «Подмосковье за ЛДПР». Перад апошнімі парламенцкімі выбарамі ў Расеі бачыў у Рудні (райцэнтр у Смаленскай вобласці, на мяжы з Лёзненскім раёнам Беларусі) рэкламу на рэйсавым аўтобусе: «Россія для русскіх» (В.В.Жіріновскій).

13. Насуперак стэрэатыпам, кіроўцы ў Мажайску ветлыя і прапускаюць на пераходзе пешаходаў.

# The New Times апублікаваў расследаванне аб старэйшай дачцэ Пуціна

Часопіс *The New Times* апублікаваў расследаванне аб старэйшай дачцэ прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна Марыі. Паводле звестак выдання, дзяўчына вучылася на факультэце фундаментальнай медыцыны МДУ з 2006 па 2011 год пад прозвішчам «Варанцова». Акрамя гэтага імя, Марыя Пуціна таксама выкарыстала дакументы яшчэ на чатыры прозвішчы, сцвярджаюць крыніцы *The New Times*.

Скончыўшы МДУ з чырвоным дыпломам, Марыя паступіла ў аспірантуру эндакрыналагічнага навуковага цэнтра (ЭНЦ) Міністэрства аховы здароўя Расіі, які ўзначальвае яе навуковы кіраўнік акадэмік Іван Дзедаў. Як піша часопіс, пасля гэтага Дзедаў змог стаць прэзідэнтам РАМН, а яго сын Дзмітрый атрымаў высокааплатную і няпыльную пасаду суддзі ад Расіі ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека. Акрамя таго, па распараджэнні кіраўніка Міністэрства аховы здароўя было паскорана будаўніцтва Інстытута дзіцячай эндакрыналогіі пры ЭНЦ, дзе працавала Марыя.

Як піша выданне, старэйшая дачка Пуціна замужам за галандскім прадпрымальнікам Ёрытам Фаасенам і цяпер носіць яго прозвішча. Фаасен з 2007 года займаў у «Газпроме» пасаду дырэктара па развіцці бізнэсу, аднак пасля пакінуў кампанію і затым працаваў у сферы кансалтынгу (да нядаўняга часу ўзначальваў раду дырэктараў «МЭФ Аўдыт»).

Па дадзеных *The New Times*, прыкладна паўгода таму прозвішча Фаасена «знікла з сайта» «МЭФ Аўдыт», а Марыю перасталі сустракаць яе суседзі па доме побач з пасольствам ЗША ў Маскве. Як сцвярджае часопіс, «у яе жыцці адбыліся важныя падзеі: яна нарадзіла дачку і стала кандыдатам медыцынскіх навук Марыяй Фаасен».

Частка звестак, якія з'явіліся ў *The New Times*, раней друкавалася ў расследаванні агенцтва *Reuters*.

**meduza.io**



Марыя Пуціна (у цэнтры) з сяброўкамі ў Італіі, лета 2010 года.



## Бацька Жанны Фрыске: Пра Шэпелева нават слухаць не хачу, ён ні капейкі не атрымае са спадчыны

Днямі ў Маскве распачаўся судовы працэс па раздзеле маёмасці Жанны Фрыске паміж яе бацькамі, непаўналетнім сынам Платонам і яе грамадзянскім мужам, тэлевядучым Дзмітрыем Шэпелевым. Суд таксама мае вызначыць парадак зносін бацькоў памерлай спявачкі з унукам Платонам.

Мяркуецца, што суд будзе цягнуцца больш за год.

Тэлевядучы хоча пакінуць сабе асабняк у Падмаскоўі, у якім цяпер жыве са сваім сынам, а кватэру ў Маскве аддаць родным спявачкі. Асобным пунктам пагаднення стане магчымасць для дзядулі з бабуляй бесперашкодна бачыцца з маленькім Платонам.

Адвакат Міхаіла Фрыске настойвае на тым, што Дзмітрый наогул ніякага дачынення да спадчыны Жанны Фрыске не мае. Паводле яго слоў, адзіным спадкаемцам Жанны Фрыске з'яўляецца яе сын Платон.

У сувязі з пачаткам суду бацька Фрыске, Уладзімір Барысавіч, заявіў выданню «Собеседник»: «Раней спрабаваў з Дзімам дамовіцца: «Калі хочаш, забірай дом Жанны ў Падмаскоўі, толькі дай з унукам мець стасункі», ён сам хацеў яго пакінуць сабе. Шэпелеў цяпер яго дабудоўвае на грошы маёй дачкі.

Цяпер я яму нічога не аддам. Чаму я павінен гандляваць рэчамі Жанны дзеля стасункаў з унукам?

Шэпелеў не выходзіць са мной на сувязь, але я ўжо і не спрабую з ім пагаварыць. Ён мяне не цікавіць. Нават калі б прыйшоў і папрасіў прабачэння, дык цяпер я б гэтыя прабачэнні ўжо не прыняў. Адзінае, што мне неабходна, — вызначэнне парадку сустрэч з Платонам.

Пра Шепелева нават слухаць не хачу, яго няма ў жыцці маёй сям'і. Ён ні капейкі не атрымае са спадчыны дачкі.

Я і мае адвакаты ўсё зробім, каб дом у Падмаскоўі і кватэра ў цэнтры Масквы, якія былі набытыя на грошы Жанны, атрымаў Платон пасля паўналецця. Судовы працэс зацягнецца не менш як на год. Цяпер уся спадчына арыштаваная, пакуль Дзіма не пройдзе працэдуру здачы тэсту ДНК, каб даказаць свае правы».

Паводле закона, Шэпелеў можа адмовіцца ад працэдуры вызначэння бацькоўства, бо афіцыйна запісаны як бацька дзіцяці.

## Адмененыя ўсе канцэрты студыі «Квартал 95» у Беларусі

Гастролі ўкраінскіх гумарыстаў былі запланаваны на 1–5 лютага ў розных гарадах Беларусі. Канцэртныя залы пачалі вяртаць грошы за квіткі.

– Сітуацыя выключна тэхнічнага характару, — паведаміў дырэктар канцэртнага агенцтва «Кастусь-медыя» Віталь Броўка. — Адмена канцэртаў не звязана з пераследам ці дзяржаўным супрацьдзеяннем. Калектыў прапанаваў перанесці падзею на восень. Але па беларускім заканадаўстве можна перанесці, калі ёсць канкрэтная дата.

На момант, калі абвясцілі перанос, канкрэтнага дня не было. Таму было агучана як адмена. Літаральна ў бліжэйшыя дні чакаем, што з'явяцца новыя даты.

**intex-press.b**

**Кіно**

# Ікона трансгендарнай супольнасці

Дзяўчына з Даніі
**Жанр:** драма, меладрама, біяграфія
**Рэжысёр:** Том Хупер
**У ролях:** Эдзі Рэдмэйн, Алісія Вікандэр, Тацíас Шонартс, Бен Уішаў, Эмбер Хёрд, Себасцьян Кох
Вялікабрытанія, ЗША, Бельгія, Данія, Германія, 119 хв.
**Адзнака:** 7

**Трансгендарнасць**

несупадзенне гендарнай ідэнтычнасці чалавека з прыпісаным пры нараджэнні полам. Сама па сабе не з'яўляецца хваробай. Аднак некаторыя трансгендарныя людзі адчуваюць у сувязі з неадпаведнасцю свайго самаадчування і чаканняў навакольных моцны стрэс, які можа сур'ёзна адбівацца на іх здароўі і якасці жыцця. Часта аптымальным рашэннем з'яўляецца трансгендарны пераход.




Капенгаген, 1920-я. Мастачка Герда Вегенер просіць свайго мужа Эйнара папазіраваць у якасці жаночай мадэлі. Нечакана Эйнар адчувае ўнутраны рэзананс з новым вобразам, а карціны набываюць папулярнасць. Герда працягвае пісаць партрэты са сваім мужам у вобразе жанчыны. Эйнару падабаецца ўласны жаночы выгляд, і ён пачынае жыць пад імем Лілі Эльбе. Пасля Лілі стане першым чалавекам, які прайшоў хірургічную карэкцыю полу.

Сцэнар фільма рэжысёра Тома Хупера («Оскар»-2011 за «Кароль гаворыць!») створаны на аснове аднайменнага рамана Дэвіда Эберсгофа, які выйшаў у 2000. Кніга заснаваная на аўтабіяграфіі Лілі Эльбе «Мужчына ў жанчыне», апублікаванай у 1933. Ужо ў ёй некаторыя фактычныя звесткі былі зменены, каб абараніць асабістае жыццё Лілі і яе блізкіх. У кнізе Эберсгофа доля Эйнара яшчэ больш рамантызаваная. Асабліва пацярпела лінія адносін з Гердай (яе сыграла Алісія Вікандэр): у рэальнасці яна не вынесла кардынальнай змены асобы Эйнара, атрымала развод і выйшла замуж за іншага мужчыну.

## 41% трансгендарных людзей скончваюць жыццё самагубствам

Стваральнікі фільма сканцэнтраваліся на працэсе ўнутранай змены асобы Эйнара. Значная частка часу адведзеная на адносіны з жонкай Гердай, якая прымае такую змену, як цяжка ёй гэта ні давалася б, і застаецца з Лілі да яе смерці пасля другой аперацыі.

Цікава, што ўзаемадзеянне са светам паказана мала: першыя з'яўленні Лілі ўспрынятыя, хутчэй, як жарт, а кансультацыі з псіхіятрамі звядзеныя да некалькіх хвілін экраннага часу.

Галоўную ролю выканаў брытанец Эдзі Рэдмэйн, які летась атрымаў «Оскар» за найлепшую ролю ў фільме «Сусвет Стывена Хокінга», сыграўшы вядомага навукоўца. Перш чым распачаць здымкі, Эдзі два гады вывучаў жыццё трансгендарнай супольнасці. Ён прызнаўся, што з жахам даведаўся пра статыстыку: 41% трансгендарных людзей скончваюць жыццё самагубствам.

«Я адчуваў вялікую адказнасць за сваю працу. Лілі — гэта экстраардынарная жанчына, яна — ікона для трансгендарнага кам'юніці, і я як акцёр быў шчаслівы, што мне выпала сыграць такую ролю», — сказаў Рэдмэйн. Для ролі яму давялося схуднець на сем кіль.

Здымкі праходзілі ў Лондане, Брусэлі і Капенгагене.

Стужка атрымала некалькі намінацый на «Оскар»-2016. Асабліва амерыканская кінаакадэмія адзначыла ігру Эдзі Рэдмэйна і Алісіі Вікандэр: яны атрымалі намінацыі «Найлепшая мужчынская роля» і «Найлепшая жаночая роля другога плана».

Фільм мае ўзроставае абмежаванне 18+.

**Настасся Уласава**

Адна з самых знакамітых трансгендараў — рэжысёрка Лана Вачоўскі, сястра Эндзі Вачоўскі (трылогія «Матрыца»). Яна ўладальніца партрэта Лілі Эльбе, выкананага Гердай Вегенер. Дзякуючы Лане падчас працы над фільмам Вачоўскі «Узыход Юпіцер» (2015) Эдзі Рэдмэйн бліжэй пазнаёміўся з гісторыяй Эйнара (Лілі) і Герды Вегенер.

У 2012 Лана Вачоўскі публічна расказала пра цяжкасці трансгендарнага пераходу і атрымала *Visibility Award* ад «Кампаніі за правы чалавека», найбуйнейшай ЛГБТ-арганізацыі ЗША.

# Пігмеі і Быкаў



Не можна спакойна глядзець на тое, як Чаргінец Мікалай ды іншыя падобныя да яго хочуць «зляпіць» помнік гіганту Беларускай думкі Васілю Быкаву.

Зрабілі цацку пад назвай «помнік Быкаву»! Яго кампазіцыя не вытрымлівае ніякай крытыкі — гэта магла б быць работа студэнта другога курса. Што гэта за позы? А рукі? Ні то чалавек іх грэе, ні то жука зламіў і ў прыгаршчах трымае? Гэта хамскі здзек з беларусаў.

Рукі прэч ад нашага Быкава, не вам яго паскудзіць!

Хоціць ужо аднаго такога «помніка» ў Віцебску князю Альгерду, дзе загубленая і ідэя, і вобраз, а высоўваецца толькі адна дэкарацыя. Глядзіш на гэтага седака на коні з выцягнутай млявай рукой, на якой месціцца птушка, і смуга ахутвае з пачуццём незразумеласці сэнсу гэтага помніка: у кампазіцыі няма дынамікі, імгнення парыву, засяроджанай накіраванасці. Проста некуды брыдзе сам па сабе конь, на якім сядзіць сонны вершнік, ледзь прыўзняўшы руку з сокалам.

Крыўдна, што мастакі, якія жывуць у абласцях, задушаныя пабытам і ўжо не адгукаюцца на ўдзел у стварэнні нечага значнага ў маштабах краіны — і гэта віна самой улады.

Трэба, каб прайшоў конкурс на варыянт помніка Быкаву, , каб усе людзі маглі гэта бачыць і абмяркоўваць.

**Настаўнік Мікола, Віцебск**

# А мне падабаецца Гігін

Адзін з чытачоў «Народнай волі» выказаўся, што тэлевядучы на канале АНТ праграмы «Справа прынцыпу» Вадзім Гігін кепска робіць сваю справу. Маўляў, аднабока.

Так, не ўсе перадачы для гледачоў бываюць цікавымі, глыбокімі па змесце. Адна з апошніх была прысвечана беларускаму кіно. Вось яна прайшла на высокім узроўні, з добрай дыскусіяй, з запрашэннем зацікаўленых асоб, што робяць стужкі.

Гледачу стала многае зразумела ў свеце беларускага шырокага экрана. Будуць таленты — будуць і поспехі, як у стужкі «Белыя Росы».

Яўна прайграе ў гэтым плане на «Расіі» праграма Ягора Хрусталёва «Што адбываецца». Паглядзіш яе і зразумееш, што сапраўды адбываецца навокал у Беларусі. Хаця мы разумеем, што нічога добрага, цікавага смелага не можа адбывацца ў дзяржаве «апошняга дыктатара Еўропы». Поўны застой і адстой. Дзяржава, як кажуць, у ступары ручнога кіравання.

І пад канец аб беларускім ТБ. Ёсць на АНТ каментатар, тэлекілер, як я яго называю, Аляксей Міхальчанка. Ён у сваёй пяцімінутцы пад назвай «Як ёсць» «перастраляў» ужо ўсю беларускую апазіцыю, усіх тых, хто мае сваю, незалежную думку і на захадзе, і на ўсходзе. Добра ён служыць рэжыму, толькі гэтым ужо нікога не запалохаеш. Пустая трата грошай.

А Вадзіму Гігіну жадаю творчых поспехаў. Ён яшчэ не страчаны чалавек, бо з галавой.

**Аляксей Будзько, Гродна**

## Гібрыдная пошта Ніны Багінскай

29 студзеня пазванілі з пошты №13, спыталі, калі я буду дома, бо трэба ўручыць пэўнае паведамленне, і спыталі дазволу кінуць гэтае паведамленне ў паштовую скрыню.

30 студзеня ў скрыні ўжо было «отправление гібрідной почты» — выклік у ГАМ-2 Маскоўскага РУУСа г. Мінска: прыбыць на вуліцу Ясеніна, 14.

Па маім адчуванні, гэта справа аб выхадзе 18 студзеня ў падтрымку прадпрымальнікаў. Тады складалі пратакол: маўляў, чаму я з бел-чырвона-белым сцягам. Мяне не затрымалі, пратакол я не падпісвала, бо на расейскай мове быў напісаны.

Вырашыла не губляць свой час, не ехаць, бо паштовае адпраўленне гібрыднае.

Таксама вырашыла з'явіцца ў ГАМ-2 не ўяўна, а гібрыдна — па тэлефоне.

1 лютага ў 12.00 тэлефаную ў РУУС, там мне даюць тэлефон ГАМ-2. Тэлефаную і тлумачу, што на выклік не з'яўлюся — няма жадання. У адказ: «Ваше право». Вось так. Ніякіх праблем. Вось так добра скончылася маё «гібрыднае» наведванне ГАМ-2 — ні штрафу, ні адсідкі.

**Ніна Багінская, Мінск, пенсіянерка**

## З чаго Кузьма пачаў работу дырэктарам — ананімка з Мазыра, «Палессебуда»

«У той час, як зарплата рабочых у падраздзяленнях Мазырскага будаўнічага трэста «Палессебуд» складае 1,5—2,8 млн руб., падзенне аб'ёму падрадных работ складае 76,7%, новы кіраўнік Кузьма В.Ю. пачаў работу з...» А далей, з чаго там Кузьма пачаў работу, мы публікаваць ужо не будзем. Бо як можна верыць пісьму, якое не падпісанае, не мае зваротнага адраса, нічога? Каб публікаваць інфармацыю, мы ж мусім яе праверыць. А як мы праверым? Паедзем глядзець, якім ён там «бяленым дубам абабіў кабінет», ці будзем падсцерагаць яго «Мерседэс» «з маторам 5,5 літраў»?

Шаноўны «Калектыў работнікаў ПМК-42», падпішыцеся сваімі імёнамі, калі пішаце праўду.

## Водгук з далёкай Амерыкі

У №47 ад 16 снежня мне быў даспадобы гістарычны апіс спадара Алега Дзярновіча.

Я знаю, што вось духовае жыццё ўзносіць чалавека ўвысь, і чалавек часцей кідае свой зрок у космас, на зоры, гэты чалавек з пачуццем радасці і сілу духу, а чалавек засмучаны апускае свой погляд на зямлю і не адчувае радасці.

Памятаю людзей, якія сябе лічылі адукаванымі, нос дзерлі так, што і качаргой не дастанеш. Вядома, не ўсе адукаваныя паводзяць сябе пыхата, але ўсё ж такіх мы бачым.

Пры нагодзе вітаю шаноўнае спадарства, рэдакцыйную калегію! Вітаю ўсіх, хто піша дзяржаўнай беларускай мовай. Жадаю добрага поспеху ў працы на карысць нашага народа. Трымайцеся і мацуйцеся, будзе лепш і лягчэй жыць на зямлі, дзе б вы ні былі.

З павагай да вас,

**Кастусь Верабей, Фармінгдэйл (ЗША)**

## Гурт «Ленінград»? Знайшлі нонканфармістаў!

Усё ж які постмадэрнізм — натоўп ідзе на «непапсу», на гурт «Ленінград» (глядзі старонку 16), які на адзін заезджаны матыў 15 год асуджае канфармізм і спажыванне і мацюкаецца са сцэны. Усё за немалыя грошы.

Яшчэ больш смешнае, што з палову таго натоўпу потым у сацсетках сур'ёзна кажуць, што яны лепшыя за тых гнілых недухоўных буржуяў, што глядзяць сясцёр Кардашан і слухаюць Бібера ды Тэйлар Свіфт. Ды вы ж браты!

**Мардэхай Валошка**

**Жаба**





**Калі клімат і далей будзе мяняцца так рэзка...**

### Прыватныя абвесткі

**Настаўніца беларускай мовы** шукае аддаленую працу.

Прапаную якаснае выкананне наступных відаў работ:

- рэдагаванне і карэктура тэкстаў на беларускай і на рускай мовах;
- набор тэкстаў;
- пераклад тэкстаў на беларускую мову з рускай і з рускай на беларускую;
- пошук, збор, сістэматызацыя інфармацыі з інтэрнэту;
- дапамога студэнтам у напісанні кантрольных работ па беларускай мове;
- дапамога студэнтам у напісанні рэфератаў, кантрольных работ па розных гуманітарных дысцыплінах.

Разгледжу і іншыя прапановы.

Адукацыя вышэйшая філалагічная: Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, спецыяльнасць «беларуская філалогія», год заканчэння — 2011, дыплом з адзнакай.

На дадзены момант навучаюся завочна ў магістратуры ГрДУ імя Янкі Купалы па праграме «Адукацыйны менеджмент».

Вопыт работы:

- настаўнік беларускай мовы і літаратуры (з 2011 г.);
- кіраўнік гуртка «Літаратурнае краязнаўства» (2012 — 2013);
- намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце (2014 — 2015).

Іншы вопыт:

- рэдагаванне і карэктура тэкстаў, у тым ліку аўтарэферата кандыдацкай дысертацыі;
- напісанне артыкулаў;
- афармленне дакументаў арганізацыі ў адпаведнасці з Інструкцыяй па справаводстве;
- правядзенне заняткаў беларускай мовы для дашкольнікаў;
- удзел у фальклорных, этнаграфічных і вуснагістарычных экспедыцыях;
- удзел у валанцёрскіх праектах (напрыклад, у летніку «Спадчына Сапегаў» у Ружанах летам 2014 года);
- адмініструю суполку «Літаратура па-беларуску»: https://vk.com/belaruskaja_litaratura.

Узровень валодання камп'ютарам — упэўнены карыстальнік, пры неабходнасці магу хутка авалодаць новымі для сябе праграмамі.

Хобі: краязнаўства, журналістыка, падарожжы, фатаграфія.

**Вікторыя, viasnovaja.ranica@gmail.com**

### Паэтычным радком

## Адкрыты ліст

Усё, цяпер халявы не чакай
(А без яе ты больш не самы-самы!..).
Так, браму зачыніў крэдытны рай —
«Брат і саюзнік» згортвае праграмы...

Сядай у самалёт — ляці, прасі,
Хлусі і падпявай, не бачыш свету.
Цяпер зусім пагана на Русі —
Не да цябе. Там процьма іншых мэтаў.

Рэформы. А інакш — страшны год.
Рэформы. І абыдзецца бяскроўна.
Рэформы. Бо раз'юшыцца народ,
І ўбачыш сам, які ён «памяркоўны»...

**Рыгор Шэрда**

## Абы не было вайны

Сібер выколвае вочы,
Рве на шматкі штаны,
Порткі ж мяняць не хочам —
Абы не было вайны…

Сцюжа пякельная вые,
Здані ўзнікаюць адны.
Неяк рызыкнём перамыем —
Абы не было вайны…

Сёрбаюць прагна з карыта,
Граем гудуць груганы.
Ды мы не бачым нібыта —
Абы не было вайны…

Горкую праўду каўтаем,
Цешымся скрозь ад маны,
Згодна на ўсё ківаем…
Абы не было вайны…

Каркаюць спрэс груганы,
Душымся ўсе ад маны,
Носім да дзірак штаны —
Абы не было вайны…

**Мікола Згубарэвіч, Лагойск**

### Жарты жартамі

— Чаму ў Вас у Мінску так чыста?
— У нас выкідваць няма чаго!

### Падзякі

Дзякуй Т-к, Сяргею Ш., Андрэю С., К-му, С.А-ву, У.П-су, за ахвяраванні на выхад NN.BY / Нашай Нівы.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Адпомсціў за скрадзеную гарэлку, але пераблытаў ахвяру

Рэцыдывіст у цемры **прыдушыў** выпадковага **пенсіянера**.

У верасні 2014 года ў парку каля Брэсцкага абласнога анкалагічнага дыспансера быў знойдзены труп. Памерлым аказаўся жыхар Маларыцкага раёна, які праходзіў лячэнне. Спачатку прыкметаў гвалтоўнай смерці не знайшлі, але экспертыза паказала, што пацыент задушаны. У тэлепраграме «Таямніцы следства» на «Беларусь-1» было расказана, як удалося раскрыць злачынства.

Адзінай зачэпкай для следчых стала верхняе адзенне ахвяры, на якім маглі захавацца генетычныя сляды забойцы. Экспертыза выявіла ДНК меркаванага злачынцы. Вось толькі падазраваных усё адно не было.

Следчыя прызнаюцца, што раскрыць злачынства дапамог выпадак. Іх увагу прыцягнуў 43-гадовы Ігар Купрыянаў — мужчына ўжо меў некалькі судзімасцяў, а цяпер яго зноў падазравалі ў крадзяжах з лецішчаў.

Падчас ранейшых следстваў ён ніколі не прызнаваў віну і адпіраўся да апошняга, а цяпер раптам адразу ж пагадзіўся з выстаўленым абвінавачваннем.

Сліну Купрыянава праверылі — і аказалася, што яна супадае са слядамі на вопратцы задушанага. Як адбылося забойства?

Жыхар Брэста Ігар Купрыянаў блукаў у ваколіцах Брэста, вакол дачных пасёлкаў. Дахаты ён ісці не хацеў: напярэдадні пабіўся з сужыцелем сястры і парэзаў яго нажом. Купрыянаў меркаваў, што той мог напісаць заяву ў міліцыю, таму баяўся, што яго затрымаюць.

Гуляючы па ваколіцах, ён падышоў да сажалкі непадалёку ад анкалагічнага дыспансера, дзе часцяком лавілі рыбу мясцовыя жыхары. Рыбак быў толькі адзін, цыган. Той пачаставаў Купрыянава алкаголем, і неўзабаве новыя знаёмыя рушылі у краму, каб працягнуць святкаванне.

Рыбак грошай з сабой не меў, а ў Купрыянава было толькі 10 даляраў. Проста каля крамы ён памяняў іх у выпадковага мінака. На атрыманыя грошы ўдалося купіць і алкаголь, і цыгарэты. Набыты тавар паклалі ў пакет да рыбака, а Купрыянаў з рэштай грошай вырашыў вярнуцца ў краму, каб купіць сасіскі для закускі.

Рыбак тым часам курыў каля ўвахода, дзе сустрэў знаёмага пацыента, які прыехаў у краму на сваім аўто. Той прапанаваў падкінуць да дыспансера: маўляў, якраз паспеем да закрыцця дзвярэй.

Калі Купрыянаў выйшаў з крамы, рыбак ужо з'ехаў. З алкаголем і цыгарэтамі.

Пакрыўджаны Купрыянаў накіраваўся да бальніцы, і па дарозе ўбачыў, як яму падалося, таго самага цыгана-рыбака. Са словамі «Ідзі сюды, сабака нямыты!» ён нанёс удар локцем у шыю, паваліў мінака, сеў на яго і пачаў біць. І толькі тады зразумеў, што ў цемры пераблытаў свайго крыўдзіцеля... Купрыянаў спадзяваўся замяць канфлікт, але пабіты ім пацыент дыспансера не хацеў мірыцца. Ён, таксама знаходзячыся нападпітку, паспрабаваў ударыць у адказ, ды яшчэ і сказаў нейкую фразу, «недапушчальную для людзей, якія раней знаходзіліся ў месцах пазбаўлення волі». Каб збіты замаўчаў, Купрыянаў прымяніў некалькі ўдушных прыёмаў. Ягоная ахвяра і так хварэла на рак горла, таму гэтага было дастаткова для смерці.

Каб замесці сляды, Купрыянаў за ногі адцягнуў труп у кусты, забраў пашпарт забітага і ягоныя боты, на якіх мог пакінуць свае адбіткі пальцаў. Рэчы ён спаліў у адным з дачных пасёлкаў.

У судзе ён цалкам прызнаў віну, аднак спрабаваў давесці, што здзейсніў забойства па неасцярожнасці. За крадзяжы, забойства і знішчэнне дакументаў Купрыянаў быў асуджаны да 11 гадоў пазбаўлення свабоды і прымусовага лячэння ад алкагалізму. За кратамі знаходзіцца і той самы рыбак-цыган, абвінавачаны па іншай крымінальнай гісторыі.

**Баніслаў Юрэвіч**

# Каханне ці разбэшчванне?

Калонія пагражае двум хлопцам, ад якіх зацяжарылі сяброўкі 14 і 15 гадоў.

У Светлагорску заведзены дзве крымінальныя справы ў дачыненні да мужчын, якія каханіся са школьніцамі, якім не споўнілася 16 гадоў. Пра асабістае жыццё непаўналетніх стала вядома ад медыкаў, калі дзяўчатам давялося стаць на ўлік па цяжарнасці. Аб такіх выпадках дактары абавязаны паведамляць у інспекцыю па справах непаўналетніх. Далей праводзіцца праверка, вынікі якой перадаюцца ў Следчы камітэт.

З 14-гадовай аднавяскоўкай кахаўся 27-гадовы хлопец. У вёсцы яго паважаюць: не судзімы, не п'е, ёсць дом, машына, спраўна плаціць аліменты на дзіця ад першага шлюбу. Праўда, усё гэта ад крымінальнай адказнасці не вызваляе.

«Нягледзячы на тое, што маці дзяўчынкі была не супраць гэтых адносін, дый мужчына гатовы ажаніцца, заканадаўствам усе дзеянні тлумачацца як злачынства, прычым — цяжкае, — кажа следчая Марыя Саўчанка. — У шлюб уступіць да 16 гадоў дзяўчына не мае права».

За любошчы з асобай, маладзейшай за 16 гадоў, мужчына атрымаў 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Аднавяскоўцы абураюцца: «За што яго саджаць? Заканадаўства трэба мяняць. Калі ўсё па каханні ды згодзе, дзеці цяпер сталеюць рана», — цытуе іх светлагорскі сайт *Ranak.by*.

Цяжарная школьніца расце ў шматдзетнай сям'і, яе маці гадуе дзяцей адна. Да вучобы, кажуць, яна не гарнулася, сябравала са старэйшымі.

У выніку кахання з непаўналетняй пад крымінальны артыкул трапіў і жыхар горада Светлагорска. У гэтым выпадку дзяўчына таксама зацяжарыла, на момант пастаноўкі на ўлік ёй ужо споўнілася 16, аднак адносіны пачаліся раней, таму хлопец падпадае пад артыкул.

Маладыя людзі некалькі гадоў сустракаліся. Хлопец таксама характарызуецца станоўча. Калі дзяўчыне споўнілася 16, падалі заяву ў ЗАГС... Але што чакае хлопца, шлюб ці турэмны тэрмін, зноў жа вырашыць суд.

**УШ**




# «Мазэраці» згарэў пасля сутыкнення з пешаходам, а той прапаў

Познім вечарам 31 студзеня ў ДАІ паступіла паведамленне пра аварыю каля пасёлка Прывольны. Інспектары, якія прыехалі на месца здарэння, пабачылі пашкоджаны аўтамабіль — яго кіроўца растлумачыў, што машына загарэлася пасля сутыкнення з пешаходам.

Кіроўца на «Мазэраці» перастройваўся з другой у першую паласу, каб з'ехаць на іншую дарогу. Там, з яго слоў, ён заўважыў пешахода, які пераходзіў дарогу з роварам у руках, але пазбегнуць сутыкнення кіроўца не змог.

Пасля аварыі, выйшаўшы з аўтамабіля, кіроўца не знайшоў пешахода. Не знайшлі яго і супрацоўнікі ДАІ, а таксама іншыя кіроўцы, якія спыніліся для дапамогі.

Тым часам, пакуль кіроўца шукаў пацярпелага, яго «Мазэраці» загарэлася. Аўтамабіль выгарэў цалкам. Абставіны здарэння і асоба пешахода высвятляюцца.

**УШ**

«Мазэраці» — італьянскі брэнд эксклюзіўных аўтамабіляў бізнэс-класа і спарткараў. Новыя мадэлі ў базавай камплектацыі каштуюць па 150—200 тысяч даляраў.

# «Падла, хадзі па віно»: пасля такіх слоў жонка забіла мужа сякерай

Трагедыя адбылася ў Івянцы (Валожынскі раён) 12 студзеня. У хуткую пазваніла жанчына з паведамленнем, што яе мужу блага. Аднак, калі дактары прыехалі на месца здарэння, убачылі, што мужчына-пенсіянер ужо нежывы. І ў яго на галаве шматлікія раны.

У забойстве западозрылі жонку. Жанчына спачатку не прызнавалася ў тым, што яна забіла мужа. Толькі на наступны дзень пасля затрымання расказала, што ж здарылася 12 студзеня.

Яна расказала, што ўвечары яны з мужам разам пілі. З раніцы мужчына пачаў абражаць жонку словамі: «Падла, ідзі па віно». Жанчына пайшла на двор секчы дровы. Калі ўбачыла, што муж ідзе да яе, ударыла яго сякерай па галаве. Сама спужалася і нават не адразу выклікала хуткую дапамогу.

Пры гэтым аднавяскоўцы кажуць, што самі стараліся не чапаць гэтую жанчыну, бо яна была запальчывая. За самую дробную заўвагу магла накрычаць, абразіць.

Калі экспертыза прызнае, што жанчына цалкам ўсведамляла, што робіць, ёй пагражае ад 6 да 15 гадоў зняволення.

**«Рэгіянальная газета»**

## Сціслa

### Стрыптыз у цэнтры Мінска

Двое п'яных студэнтаў дэманстравалі інтымныя часткі цела на Кастрычніцкай плошчы Мінска, трэці здымаў іх на тэлефон. Такім чынам хлопцы адзначалі першую сесію. Іх затрымалі, склалі пратаколы за хуліганства.

### Даішніка ўзялі за хабар

За хабар затрыманы намеснік начальніка ДАІ Віцебскай вобласці. Ён змешчаны пад варту, распачата крымінальная справа.

### Двое загінулі ў ДТЗ

Пад Баранавічамі сутыкнуліся «Рэно» і «Аўдзі». Кіроўцы не пацярпелі, але загінулі двое пасажыраў з «Аўдзі»: 21-гадовы хлопец і 19-гадовая дзяўчына.

### Загінуў пры ўцяпленні дома

Пры ўцяпленні дома па вуліцы Лынькова ў Мінску з даху сарваўся 28-гадовы рабочы.

### У Барысаве знайшлі муміфікаваны труп

Труп жанчыны ляжаў у бараку. А на гарышчы дома знайшлі ў пятлі і яе 40-гадовую дачку. «Папярэдне выяўлена, што яе смерць не мае крымінальнага характару — гэта быў суіцыд», — паведамілі следчыя. Вядома, што жанчына піла і не раз спрабавала зрабіць сабе смерць.

А вось муміфікаваны труп жанчыны — хутчэй за ўсё, маці самагубцы — праляжаў пад падлогай не менш за год. Цяпер ідуць экспертызы, каб высветліць абставіны яе смерці.

### Мазыр: мужчына задушыў сваіх дзяцей

17-гадовага сына і 9-гадовую дачку забіў, а сам выкінуўся з 4 паверха. Выскачыў з балкона, ды выжыў. З пераломамі яго даставілі ў рэанімацыю. Калі вылечаць, яму будзе пагражаць смяротнае пакаранне.

### Сямікласнік з Астраўца Януш Чубек выратаваў жыццё

Хлопчык убачыў, што дзіця правалілася пад лёд. Януш не разгубіўся і кінуўся на дапамогу. Ён паставіў дзяцей за сабой у ланцужок. Трымаючы адзін аднаго за ногі, яны выцягнулі хлопчыка.

**УШ**

# Уладальнік самай прыгожай сярод кікбаксёраў усмешкі: Чалавек, які не займаецца спортам, не паважае сябе!

**Беларускі кікбаксёр Макс Спадарэнка** ўварваўся ў медыйную прастору на пачатку снежня мінулага года, калі выбіў усё, што можна, з расійскага працаўніка на турніры ў Таліне. «Наша Ніва» сустрэлася з 24-гадовым байцом. Гэта было не проста: у дадатак да няспынных трэніровак, цяпер ён служыць у арміі.


«Я беларус, і не хачу губляцца сярод агульнай масы»

Перад баямі Макс Спадарэнка надзявае вышыванку.

### Вараныя яйкі, спартрота, «машка»

**— Ты толькі пасля трэніроўкі. Вельмі стаміўся?**

— Так, трэніроўкі перад турнірамі жорсткія — па дзве на дзень. Выкладваюся на ўсе сто. Выходных у нас няма.

**— Не крыўдна?**

— Ды не, гэта мой выбар, мая справа. Таму нармальна.

**— Як звычайна праходзіць твая трэніроўка?**

— Любы трэніровачны працэс у нас дзеліцца па этапах. Стандартна, спачатку робіцца сілавая база — гэта жалеза, праца ў трэнажорцы. Потым усё гэта раскідваецца — работа ў парах, спарынгі. Перад спаборніцтвамі — непасрэдна тэхніка. Цяпер у мяне якраз этап сілавой падрыхтоўкі — працую з жалезам, бегаю.

**— Якія моманты дапрацоўваеш?**

— Як кажа мой трэнер, у мяне ўсё для перамогі ёсць. Галоўнае — перамога над самім сабой. Трэба разабрацца, што ў мяне ўнутры, перамагчы ўсе сумневы, тады ўсё ўдасца.

**— Як цяпер выглядае твой звычайны дзень?**

— Я цяпер служу ў арміі — у спартроце. Таму ўсё пачынаецца як у арміі — пад'ём а 6-й раніцы, зарадка, сняданак. Пасля мяне адпускаюць на трэніроўку. Першая трэніроўка, груба кажучы, лёгкая, каб прачнуцца. Потым еду дамоў дасыпаць. А ў 4 гадзіны другая трэніроўка. Пасля еду дамоў, пераапранаюся і вяртаюся ў частку. І там усё па распарадку.

**— Ад арміі не касіў?**

— Ды не. А як ты адкосіш, калі ты знаходзішся ў складзе нацыянальнай зборнай? Калі ты дзейны спартсмен, значыць, ты здаровы — прыгодны для службы.

**— У вашай федэрацыі не дзейнічае такая рэч, як падняць трубку і вырашыць пытанне?**

— Адзінае, што зрабілі — я служу не як звычайны салдат, а ў спартроце. Ёсць магчымасць трэніравацца, выступаць, ездзіць за мяжу. Там ёсць таксама хлопцы-спартоўцы, але яны пастаянна знаходзяцца ў часці.

Але і ў нарады хаджу, і швабрай дзейнічаць даводзіцца — усяго патроху я адчуў. Дый курс маладога байца я месяц прайшоў...

**— А як кормяць?**

— Я там нават не ем. Не, стоп, ем яйкі вараныя. Усё астатняе — не для мяне зусім. Пах пачуеш — ажно апетыт губляецца. Для спартсмена такая ежа не пасуе. Мяне саслужыўцы просяць падвезці ў частку штосьці.



Арэна — яна як сцэна. Толькі кроў тут сапраўдная.


Тым шчаслівейшы ты, калі перамагаеш.

**— Якой, па-твойму, павінна быць армія?**

— Зрабілі б яе для тых, хто сапраўды хоча служыць. Паменшылі б колькасць прызыўнікоў, але зрабілі ўсё больш разнастайным і цікавым — больш часу на стрэльбішчах, фізічнай падрыхтоўкі. Туды б ішлі людзі, якія рэальна гэтага хочуць, і служылі б добра, а не касілі б.

### Зялёны Луг, Эрнэста Хуст, 3214

**— Добра, давай больш пра цябе. Як ты ўвогуле зацікавіўся двубоямі? Класічная гісторыя — пабілі ў школе і ты вырашыў адпомсціць?**

— Ды не, у мяне бацька вайсковец, ваяваў у Нагорным Карабаху, ён заўжды быў у спорце. І ён з'яўляецца для мяне прыкладам. Заўжды казаў мне, што мужык павінен быць мужыком, абараняць сябе і сваіх блізкіх. Спачатку ён мне дома паказваў нейкія ўдары і лапы трымаў. А мне не падабалася, я маляваць любіў, вучыўся ў мастацкай школе. І бацька мяне спачатку ледзь не сілай завозіў у клуб «Чынук» — я тады быў у 4 класе. А пасля, калі ў мяне пачало атрымлівацца і я пачаў даваць людзям, а не атрымліваць, тады і прачнулася цікавасць. Проста спачатку не ўмеў нічога, дык атрымліваў, а пасля навучыўся і пачаў сам раздаваць. І пачало падабацца. Па тэліку тады паказвалі баі K-1 у Японіі, я глядзеў і проста захапіўся гэтым

## Я ў арміі служу, але не ем. Не, стоп, ем яйкі вараныя

відам спорту, сам пачаў праяўляць актыўнасць на трэніроўках. Так дагэтуль у гэтым спорце.

**— Рэмі Баньяскі** *[нідэрландскі кікбаксёр, трохразовы чэмпіён K-1]* **захапляўся?**

— Калі я пачынаў глядзець, на піку быў Эрнэста Хуст — вось ён і быў маім любімым байцом.

**— У школьныя гады часта прымяняў атрыманыя на трэніроўках навыкі?**

— Хапала прыгод, асабліва ў гэты пік — 15 год, калі пераходны ўзрост перажываў. Ва ўсіх пастарунках на раёне пабываў, на ўліку ў міліцыі стаяў — бойкі былі пастаянна. Гэта было нармальна, калі на школьную дыскатэку прыходзілі хлопцы з іншай школы, выходзілі на вуліцу разабрацца, пасля рада прафілактыкі, бацькоў у школу. І ў лагеры адпраўлялі для цяжкіх падлеткаў — у частку 3214, там такі вайсковы лагер быў для выхавання. Я кожнае лета туды ездзіў — мне падабалася, прыкольна было.

**— Гэта які раён быў?**

— Зялёны Луг.

**— Як бацькі глядзелі на такую тваю актыўнасць, асабліва матуля?**

— Мама ў мяне вельмі начытаная, адукаваная жанчына. Яна заўжды адказвала за маю адукацыю. Бацька адказваў за развіццё цела, а маці — галавы. Яна заўжды

казала, што галава павінна быць на плячах. Я ж скончыў 11 класаў школы, пайшоў на вышэйшую адукацыю ва Універсітэт фізкультуры. Хаця, як правіла, усе, хто сябруе са спортам, сыходзілі ў спартовую школу. Але там асаблівай вучобы ўжо не было — ва ўсіх спорт на першым месцы.

**— Дарэчы, калі ты апошні раз на вуліцы біўся?**

— Правакацыйнае пытанне (*смяецца*). Дробныя сутычкі бывалі часценька, але я цяпер стараюся абыходзіць гэта. Пару год таму быў выпадак, калі я заступіўся за дзяўчыну і прыйшлося ўдарыць аднаго чалавека, бо без гэтага там было ўжо ніяк, а на мяне заяву кінулі ў міліцыю. Хоць праўда, здавалася б, была і на маім баку, але ў нашай краіне ж як? Хто першы заяву кінуў, той і мае рацыю. Было шмат непрыемных момантаў, таму я зрабіў пэўныя высновы і цяпер стараюся ўсё вырашаць дыпламатычна.

**— Ты перажываў стандартны для пераходнага ўзросту перыяд «ды ну іх»?**

— Так, было такое, хацелася больш пагуляць. Цяпер узгадваю і шкадую. Якраз жа такі перыяд, калі арганізм чалавека фарміруецца і ўзмацняецца. Хай бы лепей больш часу ў зале праводзіў, а не на вуліцы і ў дварах.



Новы год Макс святкаваў у казарме. «У кожнага мужчыны раз, а то і два разы ў жыцці можа быць і такі Новы год. Усім у Новым годзе жадаю шмат вітамінаў і пратэінаў, бугаёвага здароўя, кахаць па-сапраўднаму, а не за грошы, выканання ўсіх планаў і жаданняў!» — піша ён.



Лазня — карпаратыўны адпачынак кікбаксёраў.



«Называць катоў — такі ж бескарысны занятак, як называць ураган»



Кругавая трэніроўка прайшла на характары.

## Бліц-пытанні:

**Хто ваша дзяўчына? Дзе з ёй пазнаёміліся і пры якіх абставінах?**

Вікторыя, працуе ў музычнай студыі. Пазнаёміліся ў сацыяльных сетках, пасля запрасіў на чай — і пайшлопаехала.

**Дзе жывяце (калі не лічыць казармы)? Дзе марыце жыць? Як збіраецеся вырашаць «кватэрнае пытанне»?**

Жыву з бацькамі на Мірашнічэнкі, Зялёны Луг. Пасля службы збіраюся здымаць кватэру.

**Любімы горад**

Мінск.

**Любімы занятак у самалёце**

Глядзець фільмы.

**Любімая страва**

Паста з морапрадуктамі.

**Пры якой тэмпературы парыцеся ў лазні?**

Каб сядзелася на характары.

**Кава павінна быць…**

З вяршкамі.

**У доме павінна быць…**

Утульна.

**Жанчына павінна быць…**

спагадлівай.

## Агню, 500 даляраў, мастацтва

**— І кім бачыш сябе ў бліжэйшай будучыні?**

— Пакуль ёсць порах, дам агню. Хочацца пояс чэмпіёна свету сярод прафесіяналаў і сярод аматараў. Пакуль я быў толькі другім у свеце сярод аматараў. Ёсць да чаго імкнуцца.

**— А пражыць на сродкі ад спорту рэальна?**

— Зноў жа, усё ад цябе залежыць. Добра выступаеш, цябе заўважаюць, арганізоўваюць табе стабільна баі — тады рэальна.

**— Шмат хто з байцоў скардзіўся на малы памер дапамогі ад нашай федэрацыі.**

— Гэта датычыцца аматарскага спорту. Бо ў нас, у адрозненне ад бокса, можна выступаць адначасова і ў аматарах, і ў прафесіяналах. Таму калі ў цябе ёсць прафесійныя баі і пры гэтым ты яшчэ маеш нейкую стыпендыю па аматарах, то ўсё цалкам рэальна.

**— Колькі выходзіць у сярэднім прызавых за нармальны турнір?**

— Па-рознаму. Дзесьці могуць даць 500 даляраў, дзесьці — паўтары тысячы, дзесьці — пяць тысяч. Усё таксама залежыць ад рэйтынгу байца і важнасці турніру.

**— Не так даўно расійскі баец Андрэй Махно распавёў, што кошт падрыхтоўкі да аднаго бою вышэйшы за ганарары ад трох перамог. Гэта так?**

— Так, бывае, што падрыхтоўка вымагае вялікіх выдаткаў: дыета, вітаміны і іншае. Дзякуй Богу, што ў мяне ёсць такі добры трэнер, як Дзмітрый Барысавіч Пясецкі, які вельмі дапамагае — шукае розныя варыянты падтрымкі. Дзякуй яму вялікі за гэта.

**— Яшчэ адно пытанне, якое цікавіць, пэўна, шмат каго з аматараў двубояў. К-1 і муай-тай — гэта добра. А пра пераход у ММА задумваўся?** *[К1 — кікбоксінг па японскіх правілах, муай-тай — яго тайландскі падвід, ММА — баі без правілаў.]*

— Не. Мяне не вабіць гэты від спорту. Байцом змяшанага стылю можа стаць кожны — чым-небудзь выдзеліцца. А той жа кікбоксінг — гэта абмежаваныя правілы, мастацтва. І таму кікбаксёрам можа быць не кожны.

**— Як увогуле ацэніш перспектывы і ўмовы развіцця кікбоксінга ў Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі?**

— Усё тут упіраецца ў фінансы. У некаторых краінах вакол двубояў пабудаваны бізнэс, яны папулярныя, прыцягваецца шмат рэкламных сродкаў. Хаця ў нас таксама бачна развіццё: больш турніраў адбываецца ў Мінску, больш людзей пачынае цікавіцца кікбоксінгам, паціху расцём.

## Шашлыкі, маоры, карані

**— На гэтым фоне, як па-твойму, ты шмат ахвяруеш спорту?**

— Пакуль я малады, я не адчуваю. Дзякуючы спорту я той, кім з'яўляюся. Я шмат чаго пабачыў і даведаўся, ён даў мне станаўленне характару. Пакуль толькі ў плюс. Мінімальныя траўмы ёсць, але пакуль спорт мне больш дае, чым забірае ў плане здароўя.

**— Самая страшная траўма, якую сам бачыў?**

— Цьфу-цьфу-цьфу, у мяне пакуль сур'ёзных траўм не было, толькі мінімальныя. А ў іншых бачыў шмат. Адкрыты перелом сківіцы — самае страшнае, што я бачыў. Пасля такога цяжка вяртацца ў рынг. Таму спадзяюся, што ў мяне і далей будзе без траўм.

**— Будзем спадзявацца. Як любіш адпачываць?**

— Люблю бавіць час са сваімі сябрамі і дзяўчынай, мне з імі заўжды весела. Цяпер аддаю перавагу адпачынку на прыродзе, хаця, калі быў маладзейшым, хацелася ў клуб схадзіць. Люблю на шашлыкі схадзіць, на пляжы пасядзець.

**— Адпачынак у разуменні нармальнага чалавека ў цябе бывае? У плане 30 дзён без любой работы.**

— Больш за тыдзень не бывае, бо гэта дрэнна. Пасля перапынку ў трэніроўках больш за тыдзень цяжка вярнуцца ў рытм. Дый не магу я больш за тыдзень адпачываць — цела пачынае ламіць, энергію няма куды дзяваць. Калі ты прывык пастаянна пахаць, то цела і патрабуе нагрузак. Мне ўвогуле цяжка ўявіць, як жывуць людзі, якія не займаюцца спортам — гэта ж з глузду з'ехаць можна.

Чалавек, які не займаецца спортам, не паважае сябе. Спорт — гэта гігіена цела. Што можа быць лепей, чым рабіць сябе лепшым? А менавіта спортам ты робіш сябе лепшым.

**— Ну, і апошняе пытанне. Гляджу, ты татуіроўкі любіш. Што за траблы, што значаць?**

— Гэта палінезійскія татуіроўкі. У мяне акула — ваяры маоры насілі такія татуіроўкі, яны сімвалізуюць сілу і агрэсію. Гэта і зараджае дух.

**— Ты, дарэчы, у вышыванцы на бой выходзіў.**

— Я выходжу ў вышыванцы не таму, што гэта модна, а таму, што хачу паказаць, адкуль я родам. Каб было зразумела, што я беларус, каб не губляцца сярод агульнай масы.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**



…а жанчына павінна быць спагадлівай.

# Выбух

Набліжаецца 25 гадоў красавіцкім рабочым страйкам 1991 года ў Мінску. Піша Сяргей Ваганаў.

На кухнях, у чэргах, на сайтах, у сацыяльных сетках... у «пікейна-камізэлечных» каментарах і ў грунтоўных высновах высакалобых аналітыкаў, палітолагаў і экспертаў... цалкам у апазіцыйным асяроддзі наспявае чаканне сацыяльнага выбуху і нават фармулюецца неабвержны прагноз. Пры гэтым усё часцей згадваюцца падзеі красавіка 1991 года.

Нечаканыя.

І вось праз чвэрць стагоддзя я зноў рушу па слядах тых падзей.

Па слядах працоўных калон, што вольна пракрочылі праз увесь Мінск па ягоных нагрэтых вясновым сонейкам, сухіх і пыльных вуліцах і праспектах.

Па слядах на Плошчы, дзе вецер з Балтыкі варушыць папяровыя, быццам кінутыя да падножжа Манумента, плакаты са спехам накрэсленымі словамі пратэстных лозунгаў. Усё, баста, стачка прыпынена, мітынг пайшоў на працу.

Аднекуль з-за Чырвонага касцёла выпаўзае на Плошчу калона вайсковых грузавікоў і з натужным рыкам аддаляецца да месцаў толькі ім вядомай дыслакацыі. Вышэй, вышэй, на мост, адкуль доўга яшчэ, прабіваючы няяркае святло красавіцкага сонейка, пульсуе над горадам трывожна-фіялетавы пробліск «мігалкі»...

Над горадам, які, здавалася, ужо ніколі не будзе такім, якім я ведаў яго ўсё жыццё.

Я бадзяюся па апусцелай Плошчы, чытаю кінутыя плакаты: «Далоў сацыялізм!» Дзе, у якой яшчэ кропцы Зямлі, рабочыя ўздымуць гэты заклік? Няўжо ідэалы сацыялізму зазналі такую карозію, што заклік да ягонага звяржэння ўзняўся над горадам, які лічыўся ягонай ажыццёўленай явай? Што ж адбылося? І як?

## Чэргі

...Першы дзень красавіка Мінск мужна выстаяў у чэргах па муку, цукар, алей, іншую аталоненую бакалею. Ды па хлеб. Увечары па горадзе разнесліся чуткі, што хлебная чарга ў Заводскім раёне насмерць раздушыла сямігадовага хлопчыка.

Назаўтра чутка знікла разам з чэргамі. Горад, дакладней яго вольная ад працы частка, апалела бадзяўся па пустых крамах, натыкаючыся на новыя цэннікі там, дзе быў хаця б нейкі заляжалы тавар. Мармытаў, падлічваў, сварыўся, намагаючыся ўсвядоміць, што рыхтуе яму дзень наступны...

## «Вісарыёнавіч, дакінь рубель»

Раніцай трэцяга дня спыніў працу цэх электратэхнічнага завода. Рабочыя пайшлі да дырэктара, да «Вісарыёнавіча», прасіць дадаць рубель да абеду, які падаражэў амаль утрая — «...унь, у суседзяў плацяць, а мы што?» «Вісарыёнавіч» адказаў няўцямна. Аднекуль з'явіўся мегафон, і следам за першым цэхам пацягнуліся на свежае паветра астатнія. Што?! Мітынг на заводзе?! Прэч! Прэч!.. І народ паваліў за прахадную, перапыніўшы рух на Даўгабродскай, тады Казлова, — аднай з самых працяглых магістраляў Мінска. Адразу далучыліся суседзі — рабочыя заводаў шасцерань, аўтаматычных ліній, кавалі і малатабойцы з трактарнага...

Незаўважна адбыўся пераход ад выпрошвання рубля да патрабавання роспуску ўсіх парламентаў, адстаўкі ўсіх урадаў і прэзідэнта СССР. Прэзідэнта, якім стаў Гарбачоў і які яшчэ нядаўна праязджаў па гэтай вуліцы, прыпыняўся, вітаў цікаўны натоўп. Натоўп, які стрымлівала міліцыя і асобы ў цывільным, тады выяўляў стрыманую прыязнасць.

## Арганізаванае дзеянне

Цяпер жа стыхійны мітынг надзіва хутка займеў рысы арганізаванага і мэтаскіраванага дзеяння. Нехта крыкнуў у мегафон: «Пайшлі да ўрада!» — «Досыць, нахадзіліся! Няхай сам да нас ідзе», — адазваўся мітынг. Прыляцелі намеснікі Кебіча, старшыня гарсавета... Прамаўлялі, апраўдваліся, запэўнівалі. Тлумачылі, што бюджэт трашчыць, дзіра ў тры мільярды застаецца... А вінаватыя — няспрытны гандаль ды скнарныя дырэктары — не жадаюць выконваць рашэнні клапатлівага ўрада...

Дырэктары трымаліся магутнай кучкай паблізу. Аднак не адгукаліся на заклік членаў урада «выйсці і чэсна паглядзець людзям у вочы». Намагаліся нешта прамовіць адзін, другі старшыні прафкамаў... Іх не вельмі ветліва адцінулі — не давяраем... І тут жа, на мітынгу, абралі стачкам ад чатырох заводаў.

Увечары ўжо працаваў аргкамітэт па стварэнні гарадскога стачкама, быў аформлены пакет эканамічных і палітычных патрабаванняў да ўрада і Вярхоўнага Савета, пазначаны апошні тэрмін іх выканання — 10 красавіка.

## Кебіч вінаваціў Маскву

А 4-га ўзняўся — не, яшчэ не ўвесь, але ўжо Горад. Першымі, не зняўшы спяцовак, рушылі аўтазаводцы, на шляху да Плошчы да іх далучыліся рабочыя ўсіх буйных прадпрыемстваў, студэнты, пэтэвушнікі... Мітынг бушаваў ля падножжа Манумента. Рабочыя завалодалі мармуровай трыбунай ля ног правадыра, каб сказаць усё, што яны думаюць пра «рабоча-сялянскую» ўладу, якая давяла рабочых і сялян да мяжы жабрацтва. Вячаслаў Кебіч, тагачасны прэм'ер, узыходзіў на тую трыбуну як на Галгофу. І праз хвіліну, пад крыкі і свіст, сышоў...

Мітынг не пажадаў выслухаць кіраўніка ўрада, бо надзіманыя матрацы кампенсацый, індэксацый ды іншых прэвентыўных захадаў на паверку аказаліся дзьмутымі. Дзьмутымі пустымі грашыма. «Не, гэта не мы, — апраўдваўся Кебіч, — гэта Цэнтр... Абяцаў у паўтара-два разы падняць, а калі распакавалі начныя пакеты з прэйскурантамі — аказалася ў тры-пяць...» Але Плошча разумела пасвойму: з тысяч горлаў — «Свава-боды! Да-а-а-лоў!»

У тыя красавіцкія дні Горад разарваў ланцуг. І страх перакінуўся ў калідоры ўлады: усе дзверы Дома ўрада з боку Плошчы былі зачынены, міліцыя выпускала чынавенства праз чорны выхад...

## Не вытрымаў і «сапраўдны»

5-га Кебіч паехаў на станкабудаўнічы завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, што 4-га не страйкаваў. Мусіць, каб знайсці ўдзячную аўдыторыю. Знайшоў — людзі слухалі яго ўважліва і засяроджана. Нарэшце, усклікнуў ён, упершыню за апошнія дні «ўдыхнуў свежае паветра сапраўднага працоўнага калектыву».

6-га ўрад спехам прымае пастанову аб дадатковых захадах па сацыяльнай абароне. Першым пунктам — зняццё ўсіх абмежаванняў на паэтапнае цягам года павышэнне зарплаты працоўным вытворчых галінаў у два разы...

Стачкам рэагуе — чарговае ашуканства...

10-га «сапраўдны калектыў» таксама рушыць на Плошчу.

Улада ўсё яшчэ думае, што малая костка, а народ ужо зразумеў, што слабы ланцуг...

## Стачкам

Хто ж гэта такі — стачкам? Такія ж рабочыя, у асноўным — вышэйшай кваліфікацыі. Сяргей Антончык, Георгій Мухін, Генадзь Быкаў... Афіцыйныя прафсаюзы, «выразнікі інтарэсаў», бездапаможна боўтаюцца побач з урадам, выпрацоўваюць захады, не разумеючы, што згніла сістэма. Стачкам разумее. І патрабуе склікаць надзвычайную сесію парламента, прыняць законапраекты Апазіцыі БНФ — аб прыватызацыі, дэпалітызацыі вытворчасці і дзяржаўных структур, аб выбарах на шматпартыйнай аснове. Інакш — рэспубліканская стачка.

Добра памятаю сустрэчу гарадскога стачкама з чальцамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. «Вам даецца ўнікальны шанец скончыць з двоеўладдзем у краіне, — звяртаецца да дэпутатаў Георгі Мухін з завода «Электронмаш», маючы на ўвазе незалежнасць ад Масквы. — А вы не жадаеце браць уладу ў свае рукі. Страшыцеся браць на сябе адказнасць за лёс Беларусі!»

Сустрэчу запісвала рэспубліканскае тэлебачанне. Гэты запіс, безумоўна, гістарычны дакумент. Сведчанне таго, як не ўмеюць народныя абраннікі слухаць голас народа.

## Хваля

Не, знешне цярплівасць была праяўленая, кіраўніцтва парламента слухала ўважліва. Але...

Чарговая, без надзвычайнасці, сесія была прызначаная на 21 мая, праз месяц. У парадку дня — аніводнага, за малым выключэннем, пытання, вырашэння якіх патрабуе Плошча. Але стачка ўжо прыпыненая...

Чаму такая моцная выбуховая хваля не разбурыла таталітарную сістэму, не перашкодзіла ёй трансфармавацца ў дзейны рэжым? Мо таму, што сталічныя рабочыя не атрымалі дзейснай падтрымкі правінцыі, дэмакратычнай часткі грамадства. З дзеячаў інтэлігенцыі азваўся толькі Васіль Быкаў.

Але галоўнае ў іншым. Страйкавалі ў асноўным рабочыя прадпрыемстваў «саюзнага падпарадкавання». Яны былі першымі, хто адчуў набліжэнне землятрусу, які скончыўся распадам СССР. Яны былі ягонымі ахвярамі, прадвеснікамі і стваральнікамі. Тая выбуховая хваля дакацілася да 25 жніўня 1991 года, калі Беларусь абвясціла пра сапраўдную незалежнасць, і да 19 верасня, калі БССР стала Рэспублікай Беларусь. Красавіцкія падзеі 1991 года — адзін з самых трывалых камянёў у падмурку незалежнасці нашай краіны.

... І вось праз чвэрць стагоддзя я зноў рушу па слядах тых падзей.

Пахрыпвае на ветры яшчэ не выключаны мікрафон, на адным з флагштокаў, што прызначаныя для дзяржаўных, падчас дзяржаўных святаў, сцягоў Саюза і ягоных ССР, лунае ў адзіноце бел-чырвона-белы сцяг...




**Антончык: Пратэст рабочых не быў каўбасным бунтам**

Сяргей Антончык, адзін з лідараў рабочых страйкаў 1991-га: Я не згодны з тымі, хто кажа, што гэта быў «каўбасны бунт». Гэта быў вынік сацыяльна-эканамічных і палітычных працэсаў, якія адбываюцца, калі разбураецца магутная імперыя. Каўбасы на паліцах з'явіліся, але ўлада камуністаў у Беларусі ўжо ніколі не вярнулася. Нават калі параўнаць з Расіяй ці Украінай, дзе камуністы дагэтуль граюць істотную ролю ў палітыцы, — то ў Беларусі мы пра гэтыя партыі нават і не чуем. Гэта вынік тых страйкаў.

**Радыё «Свабода»**

# Помнік літары «ў»

Апавяданне. Піша **Вінцэсь Мудроў**.

Раніцай мяне, як заўсёды, абуджае ляскатанне лыжкі аб місу. Гэта бацька есць крупнік. Я пацягваюся і міжволі наструньваю слых.

На кухні гучна тахкаюць ходзікі, а маці, па старой завядзёнцы, распавядае бацьку, што цікавага здарылася ў наваколлі.

— У Насты карова на цвік наступіла. Прабіла нагу і ў поле не пайшла. Стаіць во ля хаты, да плоту прывязаная. А Музалёў учора так напіўся, што заснуў на лаўцы. Мужыкі ў хату на руках заносілі.

Маці бразгае талеркамі і пасля паўзы пытаецца:

— Куды сёння?

— На станцыю паедзем. Загадалі літары зрэзаць.

— Якія літары?

— Жалезныя, з назвай станцыі. Гэтыя зрэжам, а новую шыльду павесім.

Матчын цень, які сюд-туд прабіваецца праз дзвярную пройму ў пакой, застывае ў нерухомасці.

— А што ж гэта... так прыгожа зрабілі, і на табе — прыбіраюць.

— Загадалі па ўсёй Віцебскай вобласці старыя надпісы прыбраць і стандартныя павесіць, — выгукнуў бацька ўжо дарэшты незадаволеным голасам. — Дай ты паесці, далібог.

— Ды еш ужо, — таксама незадаволена азываецца маці і, уздыхнуўшы, падаецца на двор.

Год таму чыгуначную станцыю, што стаіць на ўскрайку вёскі, цалкам перабудавалі. Раней будынак быў прысадзісты, непрыгожы. А цяпер глядзіцца як на малюнку. Ну і назву зрабілі з цёмнай бляхі: кожная літара на двух жалезных шпянях трымаецца. Называецца станцыя, як і вёска — Доўжа, і там за літарай «ў» ластаўкі гняздо зрабілі. І што ж цяпер? Бляшаныя літары адрэжуць і гняздо знішчаць?

Бацька апошнім разам шкрабае лыжкай, выпівае конаўку заўсёднага малака, поўнячы кухню зычнымі глыкамі, і таксама падаецца з хаты. Праз колькі хвілін ягоны «Беларус» лагодна завуркатаў, потым абурана загуў і неўзабаве аціх на другім канцы вуліцы.

Ліпеньскае сонца вісіць амаль над галавою і ладна прыпякае. Усё наўкол занямела: нават конікі змарыліся стракатаць і да часу сталіся ў траве. Ды што там конікі! Нават пеўнаў не чуваць: пашыліся пад кусты і купаюцца ў сухім пыле. І ластаўкі, што лётаюць над станцыяй, таксама не пішчаць. Як я заўважыў, яны ўжо не залятаюць, як раней, у сваё котлішча, якое зляпілі за літарай «ў». Відаць, птушаняты кагадзе выveліся, і гэта лагодзіць душу.

Паветра працятае густым пахам чыгункі; пах гэты захрас у носе і ад яго злёгку кружыцца галава і цягне на сон. І толькі пры ветрыку, які раз-пораз павявае ад боку станцыі і лашчыць тонкімі струменямі спіну, свядомасць праясняецца, і я прыслухоўваюся, намагаючыся пачуць грукат бацькавага трактара. Але наўкол ціха, і толькі нейкі малады пеўнік каротка і здушана кукарэкнуў непадалёку.

Я ляжу на штабелі прагнілых шпал, якраз насупраць станцыі, падставіўшы спіну гарачым сонечным промням. Ветрык казыча плечы, і здаецца, што разам з ветрыкам ляціць і час — некуды ў бок жытнёвага поля, што жоўтай плямай раскінулася за чыгункай.

Нечакана густое паветра працінае зумклівы званок, які перабівае заклапочаны вокліч: «Алё!» Акно дзяжурнай па станцыі разнасцежана, і мне чутна кожнае яе слова.

— Не, яшчэ не прыязджалі! — гукае дзяжурная — дзябёлая цётка ў чырвонай фуражцы. — Колькі часу яна маўчыць — слухае, відаць, суразмоўніка, потым вытыркаецца з аконнай праёмы і голасна прамаўляе: — Едуць!

Цяпер і я чую, як удалечыні стрымана тарахціць бацькавы «Беларус». Вынырнуўшы з-за рогу станцыйнага будынка, трактар з прычэпам хвацка выязджае на перон і спыняецца. У вазку сядзяць два рамонтнікі ў памаранчавых робах. Бацька не адразу глушыць рухавік — штосьці там поркаецца ў кабінцы, і рамонтнікі па чарзе спускаюць на зямлю жалезныя драбіны, «балгарку», электрадрыль і вялізны скрутак кабелю.

Бацька нарэшце глушыць матор, вылазіць з кабінкі і, прыпальваючы цыгарэту, задзірае галаў.

— Так прыгожа глядзіцца... людзі стараліся, чаканілі літары... а тут: зрэзаць і выкінуць.

— Таму што па-беларуску напісана, — адгукаецца адзін з рамонтнікаў, — Лукашэнка мовы не любіць — вось і загадалі зрэзаць.

У нашай вёсцы, дарэчы, адны Лукашэнку страшэнна любяць, другія лаяць. Надоечы два пенсіянеры — наш сусед Музалёў і кульгавы Міканор, што жыве на выселках, — нават пабіліся, высвятляючы — добры ў нас прэзідэнт ці благі. Пілі самагонку ў Музалёвай хаце і завяліся. Музалёў ляснуў Міканора бутэлькай па галаве, і давялося нават хуткую выклікаць. А потым яшчэ і ўчастковы прыязджаў.

— Што там гэтыя бляшанкі, — уключыўся ў размову другі рамонтнік — высокі дзядзька з чырвоным носам; пыхкаючы цыгаркай, дзядзька раскручваў кабель. — На Віцебскім вакзале вітражы былі з «Пагоняй». Сонца свеціць — і на падлозе каляровыя адбіткі. Прыгожа, як у касцёле. Усё разбілі, а ў вокны шклопакеты ўпіхнулі.

— А што за «Пагоня» такая? — пытаецца бацька.

— Ну ты што, не ведаеш? Рыцар на кані. Пры Шушкевічу на грошах малявалі.

— Усё панішчылі... — лаецца даўгяла з сінім носам, і дзяжурная па станцыі, што выйшла на перон, незадаволена мармыча: — Ну хопіць ужо... — у руцэ кабета трымае сінюю шыльду. Дзяжурная прыхінула яе да сцяны, прычым дагары нагамі, і я, завярнуўшы галаву, па складах чытаю: «Стан-цы-я Дол-жо».

Хуценька насоўваю кашулю, збіраючыся паглядзець — як будуць зразаць літары, — але дзяжурная просіць не пачынаць працу, пакуль не пройдзе «дызель», і я зноў прымошчваюся на збуцвелых, цёплых ад скавару шпалах.

«Дызель» заскуголіў гамульцамі, з шумам аддзьмуўся. Некалькі пасажыраў выйшлі — мне былі бачны толькі іхныя ногі, — цягнік злёгку тузануўся, колы ўсё з большай рашучасцю пакаціліся па рэйках, і не паспеў ад перона ад'ехаць апошні вагон, як наваколле скалануў шалёны віскат. Даўгалыгі дзядзька, залезшы на драбіны, пілаваў «балгаркай» металёвы шпень, шпурляючы долу зіхоткія іскры. Іншым разам пасажыры, што выйшлі з «дызеля», спыніліся б, каб паглядзець — што тут робяць рамонтнікі, — але цяпер іх усіх як вецер знёс, і ў наваколлі залівіста забрахалі сабакі. Я таксама быў насунуў кашулю ды, пачуўшы такое, перабраўся на другі бок штабелю, дзе было больш зацішна, і, прытуліўшыся спінай да шпал, стаў утрапёна глядзець на жытнёвае поле і на зубчасты край лесу, што пазначаў далёкі небакрай.

Зрэзаныя літары ляжалі пасярод перона. Усё спрэс пакарабачаныя, і толькі «у нескладовае» выглядала некранальна-раўнюткім.

— Была Доўжа, стала ДолжО! — прамовіў гучна і грэбліва даўгалыгі дзядзька. — У нас так зроду вёску не называлі.

Дзядзька толькі што прасвідраваў апошнюю свідравіну — на тым месцы, дзе павінна была вісець новая шыльда, — і спусціўся па драбінах.

Ад старой назвы засталіся абрэзаныя шпяні ды шэрае колца ад спляжанага ластаўчынага гнязда.

— Шліфаваць давядзецца. А потым пановай тынкаваць, — прамовіў бацька, пазіраючы на знявечаную сцяну.

— Вось куды ідуць народныя грошы, — азваўся даўгалыгі, падміргнуў мне вясёлым вокам, і я падхапіў з-пад яго ног бляшаную літару «ў».

— А можна ўзяць?

— Навошта яна табе? І так увесь двор заваліў хламаздам, — выдыхнуў бацька, ды тут даўгяла падаў голас:

— Хай бярэ. Помнік зробіць. Літары «Ў». Я тут нядаўна да брата ездзіў, у Полацк. Дык там, у самым цэнтры горада, помнік гэтай літары паставілі. Толькі нейкі зладзей трохі пашкодзіў.

Помнік літары «Ў»... Я застываю ў нерухомасці, ціснучы да грудзіны шурпатую навобмацак бляху. Але ўжо праз імгненне бягу, аберуч трымаючы над галавой запаветную літару. Я ўжо ведаю — дзе пастаўлю той помнік. Непадалёку ад нашай хаты падпірала неба старая ліпа. Летась у дрэва ўдарыла маланка, і цяпер у памяць аб ёй застаўся двухметровы стаўбур з натапыранымі ў неба дзідамі абломаў. Вось да таго абламанага стаўбура і прымацую «у нескладовае». Толькі трэба верх адпілаваць, каб прыгажэй было.

Я колькі разоў забягаў дахаты — спачатку ўзяў аднаручную бацькаву пілу і ўслон — стаўбур высокі, каб адпілаваць верх, росту не хопіць. Потым малаток з двума цвікамі. Нарэшце, рыдлёўку.

Пілуючы ліпу, добра ўходаўся, але атрымалася ніштавата: наверсе ўтварылася гладкая паверхня, на якую можна кветкі класці — помнік жа. Потым пасек крапіву вакол, прыбіў да стаўбура бляшаную літару і зрабіў да ліпы роўную сцяжынку, зняўшы рыдлёўкай дзірван. Нарэшце, сеў адпачыць, прытуліўшы да помніка патыліцу, і задаволена заплюшчыў вочы.

— Што гэта ты там павесіў? — пачуўся па-старэчаму непракерханы голас, і я размежыў павекі.

Стары Музалёў ішоў з крамы. З кішэні пацёхканага пінжака тырчала бутэлька.

— Помнік літары «У каротка-му»! — паведаміў я звонкім голасам.

— Э-э, браток, такія рэчы трэба з уладамі ўзгадняць, — ці то жартам, ці то ўсур'ёз пракрахтаў Музалёў, памацаўшы рукой бутэльку. — А то міліцыя прыедзе... будзе табе, як мне надоечы, — стары яшчэ штосьці прамармытаў, мацокнуўся і паклыпаў да сваёй хаты.

Следам за Музалёвым па вуліцы з'явілася наша суседка — цётка Наста. І не адна — цягнула за сабой на вяроўцы карову. Відаць, хадзілі да ветэрынара, бо цётчына Субоха прыкметна прыпадала на пярэднюю нагу.

— Каго гэта ты прыбіў? — пытаецца цётка Наста, параўняўшыся з помнікам.

— Літару «У кароткае».

— Дык яна ж, здаецца, на станцыі вісела.

— Вісела, ды рамонтнікі адрэзалі. А я падабраў.

— Во дурняцца людзі. Вешаюць, тады аддзіраюць... Ну пайшлі ўжо, пайшлі, — гукае цётка карове, тузае за вяроўку, і Субоха, незадаволена крутнуўшы рагамі, сунецца па гаспадыняй.

Невядома, колькі б я яшчэ сядзеў ля свайго помніка, ды тут маці — як заўсёды незадаволена і голасна — паклікала на абед.

— Што гэта ты з рыдлёўкай лётаеш? — маці паставіла на стол талерку з таўканіцай.

— Помнік рабіў, — мармычу я, размазваючы па бульбе азярцо растопленага масла.

— Ты б лепш храпу парсюку сабраў ды лехі прапалоў, — кажа маці, але я не слухаю тыя нараканні.

Спехам праглынаю бульбу, ем гарачую ячнюю і ўжо на хаду п'ю з гладыша халоднае, толькі што з лядоўні, малако. Мне не да абеду. Карціць паглядзець — ці стаіць хто каля помніка.

Яшчэ ад весніц заўважаю мальцаў з нашай вуліцы. Яны таўкуцца вакол ліпы. Я махаю ім рукой, бягу, спатыкаючыся на разбітай «Беларусам» дарозе, і тут жа спыняюся, пабачыўшы знявечаную літару. Яна вісіць дагары нагамі, трымаючыся на адным цвіку, і глуха бразгае пасля кожнага пушчанага каменя. Твары сябрукоў пазначаныя вясёлым азартам. Спаборнічаюць — пасля чыйго каменя бляшанка зваліцца на зямлю. Мне, як у маленстве, становіцца шкада сябе самога, і я, пракаўтнуўшы халодны камяк крыўды, думаю пра тое, што літары «ў» няма месца на гэтай зямлі.

**Вінцэсь Мудроў**

Пісьменнік. Нар. 1953. Лаўрэат трэцяй прэміі Гедройца (2014) за кнігу апавяданняў «Багун». Жыве ў Полацку.

Уладзімір Лобач.

## Падарожнае

За полем, за ярам і за лясамі цёмнымі
хатка стаіць — свецяцца вокны,
дзе бабця тутэйшая і Морысан Джым
на галасы раскладаюць балады Піліпаўкі
пад самагон на ядлоўцы (што па-ангельску — джын).
А нам ісці яшчэ... Хоць бы паспець да ночы
трапіць у цёплую хатку, пакуль ніхто не замёрз
у нашых прыгожых палях, дзе аднолькава строіць
калядная песня і псіхадэліка Doors.

Віталь Рыжкоў.

## Калыханка

Калісьці даўно — год з восем таму будзе, напэўна, —
са мной былі людзі, якія ў мяне верылі.
Калі не ў мяне, дык прынамсі ў маю пісаніну:
прасілі стварыць калыханкі дачцэ і сыну.

Прасілі нетэрмінова, але — ці аслю замову?
Заўсёды бракуе словаў так нясвоечасова.
Маўляў, ты, як Ванга ці Сціві Уандэр, пішы ўсляпую!
А ў мяне дагэтуль — ні «баю-баю» ні «люлі-люлі».

Жыццё мне робіць знакі — і яны не мяккія.
Паэт я невялікі — такі сабе Нязнайка.
Мне Горад Сонца нават і не бачна з гэтай ямкі,
дык што чакаць на «дзякуй» ад гэтай п'янай п'яўкі?

Сябе назіраю звонку — «нон-фікшн» у «слоў-моўшане».
Такое ўсё няважнае — у прынцыпе, як і ў кожнага.
Гаманец спустошаны, узрост патрабуе большага...
Так, шчасце — не ў грошах. І таму — трывожнае.

На сустрэчы выпускнікоў шоу праблемаў жыцця:
хтосьці сківіцы сцяў, хтосьці белы ўздымае сцяг...
Вядома, пад свой трыццон мы думаем пра працяг —
Дзімон адпусціў «мамон», у Іры расце дзіця.

Верш друкуецца паводле часопіса «Дзеяслоў»




**Актывісты моладзевай ініцыятывы «Змена» правялі ў нядзелю, 31 студзеня, у Мінску «антыпадатковы» флэшмоб. Некалькі чалавек прынеслі на прыступкі Інспекцыі па падатках і зборах Мінска труну з надпісам па-руску «У труне бачылі вашы падаткі» і плакат, які заклікае спыніць падатковыя паборы з беларусаў. Гэта была першая акцыя «Змены» ў Мінску пасля паўтарагадовага перапынку.**



**17-гадовая беларуская тэнісістка Вера Лапко выйграла юніёрскі адкрыты чэмпіянат Аўстраліі, які праходзіць у Мельбурне. У вырашальным матчы яна перамагла славачку Тэрэзу Міхалікаву — 6:3, 6:4. Вера Лапко стала другой тэнісісткай з Беларусі, якой удалося заваяваць аўстралійскі Мельбурн у юніёрскім узросце. У 2005 годзе тут першынствавала Вікторыя Азаранка, экс-першая ракетка свету.**




**Мінчукі не шкадавалі грошай, каб трапіць на канцэрт расійскага гурту «Ленінград». Галоўная яго адметнасць — лаянка ў тэкстах. Улады Беларусі не пярэчылі правядзенню канцэрта. Свой новы хіт — песню «На лабутэнах» (іншая назва — «Экспанат») — гурт Шнура выконваў двойчы. «На лабутэнах-нах...» — спявала салістка. І 15-тысячная зала раўла: «...і ў ах...ных штанах».**



**На вуліцы Энгельса ў Мінску адкрылі мемарыяльную шыльду вядомаму беларускаму футбалісту Валянціну Бялькевічу, які раптоўна памёр у Кіеве 1 жніўня 2014. Яму быў 41 год. На фота: бацька Валянціна Мікалай Бялькевіч.**



**У Нацыянальным парку Танзаніі жыве жырафа-альбінос Ома. Гэта 15-месячная жырафа, скура якой выглядае быццам бы пабеленай. Жырафа пакутуе на лейкозны альбінізм, які прыводзіць да частковай страты пігментацыі.**

## Анекдоты і жарты

* * *

У інтэлігентнай сям'і жонка сустракае п'янага мужа:

— Што піў, дарагі?

— Каву з каньяком, дарагая.

— Табе ж нельга шмат кавы, дарагі, у цябе ціск.

* * *

Першыя паўгода будуць цяжкія, а потым пойдуць ягады, грыбы.

* * *

– Каханы, а золата ржавее?

– А ў чым праблема?

– Я тут завушніцы разглядаю, якія ты мне падарыў на дзень нараджэння.

– Так, дарагая, ёсць такія гатункі золата, якія трошкі ржавеюць.

* * *

Знайшоў у сябе ў скрынцы з дакументамі дзесяць даляраў. Пакладу назад. Праз пару гадоў куплю на іх кватэру ў Ваўкавыску.

* * *

– Тата, я з табой больш на санках катацца не пайду!

– Хопіць балбатаць, вязі давай!

* * *

Сяджу на курсах па барацьбе з нарцысізмам. Я тут самы прыгожы!

* * *

– Алё, шэф, я не змагу сёння прыехаць на працу, у мяне машына зламалася...

– Ды прыязджайце на аўтобусе, у чым праблема?

– У мяне няма аўтобуса...

* * *

Калі вымавіць без запінкі назвы пяці прадметаў мэблі з IKEA, можна выклікаць д'ябла. Але ён з'явіцца ў разабраным выглядзе.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дзвінск. Віцебская губерня.** У чым ёсць прыбытак? У піўных. Растуць як грыбы найбольш па краёх горада, дзе жыве самая бедната, каторая астаўляе там апошнія капейкі.

**«НН». №5. 1911.**

**Святлана Алексіевіч пра Аляксандра Мілінкевіча.** «Я бачу, што з'явіўся годны, нармальны чалавечы твар. Ён адпавядае часу і драматычным падзеям, якія ў нас адбудуцца незалежна ад таго, зменіцца гэтая ўлада ці застанецца. У ягонай пластыцы, забытай у нас інтэлігентнасці для мяне ёсць пэўная надзея. Чакала грамадства Лукашэнку — яно яго атрымала. А цяпер грамадства поўнае новых чаканняў, яшчэ неасэнсаваных, схаваных».

**«НН». №5. 2006.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 02.02.2016.
Замова №396.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16005